



# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

15 мая 2020 года №20 (1307)

18+


# Вілейка ў пачатку 20 стагоддзя на фотаздымках

## А як цяпер выглядаюць гэтыя вуліцы і будынкі?

Плошча, касцёл і Свята-Марыінская царква з розніцай у 102 гады: злева – сучасны выгляд, справа – фота 1918 года

Wileika - Kirchen.

старонкі 18-19

Фота Настассі УТКІНАЙ і невядомага нямецкага салдата. Па матэрыялах гісторыка Андрэя КАРКОТКІ.

**Судзяць маладзечанскіх хакеістаў**

старонка 22

Дискаунтер «ОСТРОВ ЧИСТОТЫ И ВКУСА» приглашает на работу:
- ЗАВЕДУЮЩИХ ТОРГОВЫМ ОБЪЕКТОМ
- ПРОДАВЦОВ-КАССИРОВ
- АДМИНИСТРАТОРОВ ТОРГОВОГО ЗАЛА (охранник+грузчик)

Контактный телефон: (8-029) 117-80-65

ЧТУП «ЗападХимТорг» УНП 590828925

**Пяць год таму на Валожыншчыне знялі рэаліці-шоу**

старонкі 17

**Летнікі рэгіёна будуць прымаць дзяцей у пандэмію**

старонка 2

ISSN 1991–7155




Адсканууйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



## У Крэве будзе працаваць валанцёрскі археалагічны летнік

**СМАРГОНЬ**

Ад 20 ліпеня да 3 жніўня ў Крэве будзе працаваць валанцёрскі археалагічны летнік пад кіраўніцтвам кандыдата гістарычных навук **Алега Дзярновіча**.

– У ліпені будзем працаваць на старажытным, дазамкавым Крэве, – падзяліўся Алег Дзярновіч з карэспандэнтам. – А ў маі павінны распачацца кансервацыйныя працы на ўсходняй сцяне замка.

Трымаем асабістую дыстанцыю, але максімальна зближаем яе з рыдлёўкамі. Насуперак усяму, капаем Крэва, кажуць арганізатары.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Хутка ўключаць высакавольтную лінію «Беларуская АЭС – Маладзечна»

Пра гэта паведамляюць у Белэнерга.

Усяго сем высакавольтных ліній звязваюць Беларускую АЭС з энергасістэмай. Пяць з іх ужо ўключылі, а дзве, у тым ліку і лінію «Беларуская АЭС – Маладзечна», плануюць уключыць у бліжэйшы час.

**Аддзел інфармацыі.**

## Прэзідэнцкія выбары адбудуцца 9 жніўня

Прэзідэнцкія выбары пройдуць у Беларусі 9 жніўня 2020 года.

З датай вызначыўся парламент. Раней гэту дату прапанавала старшыня ЦВК **Лідзія Ярмошына**.

**Паводле БелТА.**

## Адкрываюць сезон палявання на казулю

Ад 15 мая да 30 верасня пачынаецца паляванне на казулю.

Паляваць можна ў паляўнічых угоддзях на дарослых самцоў, селекцыйных жывёл любога полу і ўзросту на працягу сутак ружэйным спосабам з засады і з падыходу.

Выкарыстоўваць можна наразную паляўнічую зброю з дульнай энергіяй кулі звыш 1500 джоўляў, гладкаствольную паляўнічую зброю і патроны з кулямі або карцеччу, паляўнічыя лукі і арбалеты.

Калі вы сталі відавочцам браканьерства, варварскіх адносінаў да жывёл і раслін, просім паведамляць на кругласутачны «тэлефон даверу» Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь **(8-017) 390-00-00.**

**Васіль ПАЎЛАЎ, Маладзечанская занальная інспекцыя аховы расліннага і жывёльнага свету.**

## Гасцініцу не адчыняць да канца вясны

**ВІЛЕЙКА**

У красавіку мы паведамлялі пра тое, што гасцініцу «Вілія» ў Вілейцы зачынілі і плануюць адчыніць пасля 30 красавіка.

Але, як паведамляюць у ЖКГ, тэрміны памяняліся. Плануюць, што гасцініца будзе зачыненая да 31 мая.

На сайце belhotel.by даты магчымай броні пачынаюцца ад 1 чэрвеня.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У двары на вуліцы Скарыны з'явіўся новы арт-аб'ект

**МАЛАДЗЕЧНА**

Новы арт-аб'ект – будзільнік са старой шыны – з'явіўся ў двары шматпавярховак па вуліцы Скарыны ў Маладзечне.

Будзільнік зрабіў жыхар двара **Андрэй Зайцаў**. Менавіта гэты двор на Скарыны вядомы сваім крэатыўным выглядам. Актыўныя жыхары ўпрыгожваюць яго цікавымі аб'ектамі, ладзяць сумесныя святы, а яшчэ задумалі зрабіць карцінную галерэю проста ў двары.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Фота забяспечана Іранай ТАРКАН.

Жыхары двара пазіруюць ля новага арт-аб'екта.



У адным з дзіцячых аздараўленчых цэнтраў на Вілейшчыне.

# Летнікі прымуць дзяцей на канікулы, нягледзячы на каранавірус

**Крыху больш за два тыдні засталося да летніх канікулаў. Ці будуць ва ўмовах пандэміі працаваць летнікі і дзіцячыя аздараўленчыя цэнтры? Каб даведацца пра гэта, мы звязаліся з некаторымі ўстановамі ў нашым рэгіёне.**

**ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ**

### Мядзельшчына: ад 28 мая пачынаецца першая змена

У Нацыянальным дзіцячым цэнтры «Зубраня» першая змена пачынаецца ўжо ад 28 мая і працягнецца да 14 чэрвеня.

> **Як паведамілі карэспандэнту, усяго будзе пяць змен. Апошняя скончыцца 29 жніўня. Летнік працуе ў штатным рэжыме.**

Шмат пуцёвак забраніравалі яшчэ зімой. Са значных змен – толькі тое, што дзеці з-за мяжы сёлета тут адпачываць не будуць, бо ў большасці краін закрытыя межы.

У летніку адзначаюць, што з надыходам пандэміі на ўсёй тэрыторыі ўстанавілі дазатары з антысептыкамі, набылі індывідуальныя сродкі абароны, падрыхтавалі інфармацыйныя буклеты аб прафілактыцы.

У дзяцей, якія прыязджаюць сюды адпачываць, цяпер абавязкова правяраюць даведкі пра адсутнасць кантактаў з інфіцыраванымі. На працягу дня мераюць тэмпературу ў дзяцей, перад пачаткам працы – у работнікаў.

Дэзінфіцыруюць і кварцуюць сталовыя, спальні, абсталяванне ў камп'ютарных класах, памяшканні праветрываюць. Дзеці і работнікі на працягу дня абавязкова мыюць рукі. У цэнтры праводзяць сустрэчы з доктарам-эпідэміёлагам.

– Мы заўсёды клапаціліся пра здароўе сваіх выхаванцаў і супрацоўнікаў. А сёння, у такі небяспечны перыяд, тым больш прынялі меры для таго, каб засцерагчы ад інфекцыі дзяцей і дарослых, – адзначаюць у аздараўленчым цэнтры на Мядзельшчыне.

### Вілейшчына: робім рамонт, рыхтуемся прымаць дзяцей

Дзіцячы рэабілітацыйна-аздараўленчы цэнтр «Надзея» пакуль зачынены. Дзяцей не прымаюць да 29 мая. Цяпер робяць рамонт, рыхтуюць памяшканні да лета. А пасля 29 мая цэнтр запрацуе ў штатным рэжыме.

> **Заявак на адпачынак і ад індывідуальных адпачывальнікаў, і ад арганізацый хапае, кажуць тут.**

У сувязі з небяспечнай эпідэміялагічнай сітуацыяй у цэнтры прынялі дадатковыя меры, каб засцерагчы жыццё і здароўе дзяцей, якія прыедуць сюды летам. Аўтобусы, якія даставяць дзяцей на адпачынак, прадэзінфіцыруюць. Перад тым, як дазволіць дзіцяці сесці ў аўтобус, у яго памераюць тэмпературу і праверäць даведку на адсутнасць кантактаў з людзьмі, што мелі інфекцыйныя захворванні. У адным аўтобусе паедуць дзеці, якія будуць жыць у адным корпусе.

Перад засяленнем кожнае дзіця агледзіць медык. Калі дзяцей бацькі прывязуць на ўласным аўтамабілі, тэрмаметрыю праводзяць на пасту аховы, а пасля дзіця пойдзе на далейшы агляд у медыцынскі цэнтр.

> **У спальнях, медыцынскім корпусе, будынку адміністрацыі ёсць дазатары з антысептыкам. У гульнявых пакоях ёсць прылады для абеззаражвання паветра.**

Супрацоўнікі карыстаюцца сродкамі абароны і праходзяць абавязковую тэрмаметрыю.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ



Фота Настассі УТКІНАЙ.

А як дапамагае ўрад прадпрымальнікам з рэгіёна?

# Як падтрымліваюць бізнес у пандэмію ў Германіі і Беларусі

**По словах беларускіх экспертаў-эканамістаў, ва ўмовах пандэміі каранавірусу адчувальна церпяць такія сферы, як транспарт, забавы, сфера паслуг, турызм. Гэта пацвярджаюць і прадпрымальнікі з рэгіёна, з якімі гутарылі карэспандэнты. Адны страцілі працу ў кавярні, іншыя вымушаныя мяняць фарматы працы, каб не зачыніцца. Прапануем даведацца, як у падобных умовах сваіх бізнесоўцаў падтрымлівае ўрад Германіі.**

Як піша партал dw.com, індывідуальныя прадпрымальнікі яшчэ ў пачатку красавіка пачалі атрымліваць ад уладаў па некалькі тысяч еўра, каб перажыць крызіс, выкліканы каранавірусам.

### У Германіі – субсідыі ў некалькі тысяч еўра

Нямецкія прадпрымальнікі кажуць, што ў крамах абарот знізіўся да мінімуму. Пускаць у крамы кліентаў нельга. Дазваляюць толькі дастаўку на дом або продаж на вынас замоўленага раней тавару.

Падтрымкай для малога бізнесу стала экстранная фінансавая дапамога дзяржавы. У Берліне гарадскія ўлады сумесна з федэральным урадам аб'явілі пра тое, што прадпрымальнікі, якія засталіся без прыбытку, могуць атрымаць бязвыплатныя грашовыя субсідыі на бліжэйшыя тры месяцы, пачынаючы ад красавіка.

Сумы вызначаюць індывідуальна. Яны дасягаюць 15 тысяч еўра на аднаго прадпрымальніка. Заяўкі на такую дапамогу ў красавіку пачаў прымаць Інвестыцыйны банк Берліна. Электронная чаргі на сайце, каб падаць заяўку, прадпрымальнікі чакалі дзень-два. Тым, хто змог дачакацца і адправіў заяўку, дапамога прыходзіла на наступны працоўны дзень.

За адзін з тыдняў красавіка банк перавёў каля 1,4 мільярда еўра індывідуальным прадпрымальнікам і малым прадпрыемствам. Пераводы атрымалі каля 140 чалавек.

Адкуль бралі грошы? У банку растлумачылі, што гэта бюджэтныя сродкі, якія даў сенатар Берліна і нямецкі ўрад. А ўвогуле, гэта грошы падаткаплацельшчыкаў. Таму да іх размеркавання падыходзяць вельмі акуратна, адзначаюць у банку.

Па словах падатковых кансультантаў, субсідыі не могуць атрымліваць усе прадпрымальнікі без разбору. Толькі тыя, у якіх вялікія праблемы з прыбыткам і ўсе грошы ўжо патрачаныя.

Яшчэ ў сакавіку Міністэрства фінансаў Германіі аб'явіла пра змякчэнне патрабаванняў па выплаце падаткаў. Прадпрымальнікам даюць адтэрміноўкі ў выплаце. Да канца 2020 года адмяніліі прымусовыя меры і штрафы. Урад таксама пашырае схему кампенсацый работнікам, якіх кіраўнікі адпраўляюць на аддаленую працу.

### У Беларусі – адтэрміноўкі па крэдытах і арэндзе

Урад Беларусі таксама распрацоўвае пакеты мер па падтрымцы эканомікі. У першым пакеце мер, ужо падпісаным **Аляксандрам Лукашэнкам**, – арэндныя канікулы, растэрміноўкі і адтэрміноўкі па крэдытах. Мясцовыя ўлады могуць зніжаць падаткі на маёмасць. За парушэнні кантралёры могуць прыпыніць працу кавярні ці рэстарана, але не больш чым на тры месяцы.

Бацькі могуць разлічваць на матэрыяльную дапамогу, калі дзіця да дзесяці гадоў стала кантактам першага або другога ўзроўню.

Аднак на думку акадэмічнага дырэктара цэнтра эканамічных даследаванняў Вегос **Кацярыны Барнуковай**, гэтыя меры пакуль не вельмі вырашаюць асноўную праблему – праблему даходаў людзей.



Падрыхтавала
Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

ЛІЧБА НУМАРА

**777**

СТОЛЬКІ ЧАЛАВЕК У БЕЛАРУСІ Ў 2019 ГОДЗЕ СКОНЧЫЛІ АСПІРАНТУРУ

ПАВОДЛЕ BELSTAT.GOV.BY

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 7.05 | 14.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.4527 | **2.4463** |
| Еўра | 2.6518 | **2.6523** |
| Злоты, 10 | 5.8244 | **5.8119** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3099 | **3.3250** |
| Грыўня, 100 | 9.1225 | **9.1638** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 6.05 | 13.05 |
| Еўра | 2.6000/2.6800 | **2.6000/2.6800** |
| Долар ЗША | 2.4000/2.4800 | **2.4000/2.4800** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 6.05 | 13.05 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 23,06 | **23,06** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,20 | **5,20** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 16,80 | **16,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,20 | **2,20** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,85** |
| Агуркі, 1 кг | 2,70 | **3,20** |
| Бульба, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Буракі, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,70 | **2,30** |
| Морква, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Памідоры, 1 кг | 4,30 | **3,90** |
| Перац, 1 кг | 6,90 | **4,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,70 | **1,70** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,80 | **5,90** |
| Бананы, 1 кг | 3,30 | **3,50** |
| Клубніцы, 1 кг | – | **18,00** |
| Лімон, 1 кг | 4,90 | **5,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | **5,90** |
| Чарэшні, 1 кг | – | **19,00** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

**УО «Ильянский государственный аграрный колледж»**
в 2020 году осуществляет прием учащихся
по следующим специальностям:

**ФЕЛЬДШЕР ВЕТЕРИНАРНОЙ МЕДИЦИНЫ**

**Срок обучения на базе:** общего базового образования – 3 года 8 месяцев; общего среднего образования – 2 года 8 месяцев.
**Дополнительные специальности:** • оператор по искусственному осеменению животных; • удостоверение водителя категории «В».

**ЗООТЕХНИК**

**Срок обучения на основе:** общего базового образования – 3 года 6 месяцев.
**Дополнительные специальности:** • оператор по искусственному осеменению животных; • тракторист-машинист категории «А»; • удостоверение водителя категории «В».

**Сроки приема документов на базе общего базового образования:**
20 июля – 3 августа
**Сроки приема документов на базе общего среднего образования:**
20 июля – 9 августа, на условиях оплаты по 16 августа

Адрес: **Минская область, Вилейский район, аг. Илья, ул. Советская, 93**
Тел.: 8(01771) **7-63-62**, **7-62-76**.
E-mail: **iliagak@mail.ru**. Сайт: **igak.by**
УНП 600021596

## З крамы скралі сейф і выручку

МАЛАДЗЕЧНА

Раніцай 5 мая ў Маладзечанскі РАУС звярнулася гаспадыня садовай крамы, размешчанай на вуліцы Багдана Хмяльніцкага. Жанчына паведаміла, што пасля выхаднога ў гандлёвай зале – пагром, а з кабінета дырэктара знік сейф.

Па прыбыцці правааахоўнікі ўстанавілі, што зламыснікі праніклі ў прыватную краму праз акно, выбіўшы шыбу. Падчас агляду месца высветлілася, што з гандлёвай залы выкрадзеная выручка – каля паўтары тысячы рублёў. Па словах пацярпелай, у касе ляжалі «капейкі», а вялікая сума захоўвалася ў скрыні пад касай.

Невядомыя прыхапілі сейф з каштоўнымі паперамі. Сейф быў у шафе ў кабінеце дырэктара, але не замацаваны належным чынам. Калі б канструкцыя адпавядала патрабаванням, зламыснікі не змаглі б вынесці сейф з памяшкання. Да таго ж краму не абсталявалі сігналізацыяй, сістэмай відэаназірання.

Супрацоўнікі крымінальнага вышуку вылічылі падазраваных. Менш чым за суткі атрымалася раскрыць злачынства. У злачынстве падазраюць двух беспрацоўных – 41-гадовага і 29-гадовага жыхароў Маладзечна. Мужчынаў затрымалі і даставілі для разбору ў РАУС.

Скарыстаўшыся тым, што ў краме быў не зачынены на замок аконны ралет, ноччу мужчыны разбілі кухонным малатком шкло і праніклі ў памяшканне. У касе ніякіх грошай яны не знайшлі, уся выручка захоўвалася ў скрыні пад самім апаратам. Адтуль зламыснікі забралі 1 480 рублёў. Мужчыны на таксі адправіліся да знаёмага ў вёску Вязынка, дзе ўскрылі сейф. Яны распілавалі металічную скрыню. Паперы з сейфа спалілі, а скрыню закапалі ў лесе. Па факце ўзбудзілі крымінальную справу.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Невядомы скраў з клумбы кусты руж і лілеі

ВІЛЕЙКА

Пра гэта карэспандэнту расказаў намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Мікалай Мягкоў**.

5 мая ў Вілейскі РАУС звярнулася віляйчанка з дома №54 па вуліцы Кастрычніцкай. Жанчына паведаміла, што некалькі год таму на ўчастку пад сваім балконам зрабіла клумбу. Тут вырошчвала розныя кветкі. Калі ўвечары 4 мая гаспадыня выходзіла на двор, кветкі былі.

А раніцай 5 мая жанчына заўважыла, што з клумбы зніклі чатыры кусты руж і куст лілеі. Страты гаспадыня ацаніла ў сорак рублёў.

У дзеяннях невядомага – прыкметы адміністрацыйнага правапарушэння, прадугледжанага артыкулам 10.5 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях – дробны крадзеж маёмасці. Ён караецца штрафам ад 54 да 810 рублёў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## 9 мая гарэў дом у Куранцы

ВІЛЕЙКА

Пра пажар у Куранцы на вуліцы Камсамольскай у Вілейскі РАНС паведамілі 9 мая, у 9:50.

Тэлефанавала мясцовая жыхарка. Яна расказала, што з суседняга дома ідзе дым. Калі ратавальнікі прыехалі на месца, жылы дом быў замкнуты. Унутры нікога не было. У адным з пакояў тлела канапа і пасцель на ёй. Абгарэў таксама і пакой, дзе стаяла канапа.

Як распавялі ў Вілейскім РАНС, дом быў жылы, але не электрыфікаваны. Ахвяр няма. Спецыялісты праводзяць праверку.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Згарэлі шэсць тон саломы

МАЛАДЗЕЧНА

11 мая ў 14:14 на нумар 101 Маладзечанскага ГРАНС паведамілі пра пажар у вёсцы Чырвонаармейская Гарадоцкага сельсавета. У службу выратавання патэлефанавала жанчына, дачка якой, гуляючы ў двары, убачыла дым.

Па прыбыцці выратавальнікаў да месца выкліку высветлілася, што гарыць салома, якая належыць адкрытаму акцыянернаму таварыству «Селеўцы». Пажар ліквідавалі з дапамогай пагрузчыка гэтай арганізацыі.

Агонь знішчыў шэсць тон саломы, палову ўдалося выратаваць. Прычына пажару высвятляецца, паведамілі ў ГРАНС Маладзечна.

Разгляданая версія – падпал або неасцярожнае абыходжанне з агнём.

**МНС папярэджвае**: прычынай многіх надзвычайных сітуацый з'яўляецца безадказнасць чалавека і невыкананне правілаў пажарнай бяспекі. Не грэбуйце жыццёва важнымі правіламі. У выпадку пажару і іншых надзвычайных сітуацый неадкладна тэлефануйце на нумары **101** ці **112**, не забываючы ўказаць адрас і месца пажару.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота classpic.ru

За свае паслугі віляйчук браў 90-100 рублёў.

# Вілейчука падазраюць у занятках прастытуцыяй

### Ён аказваў інтымныя паслугі мужчынам

**30-гадовага мужчыну затрымалі 6 мая. Склалі адміністрацыйны пратакол і накіравалі ў суд.**

Як распавёў оперупаўнаважаны па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Вілейскага РАУС **Вадзім Бурак**, падазраваны – жыхар Вілейкі. Мужчына мае працу.

Кліентаў – іншых мужчын – фігурант шукаў праз сацсеткі. За свае паслугі браў 90-100 рублёў. Свае паводзіны мужчына патлумачыў тым, што хацеў палепшыць матэрыяльнае становішча.

Адміністрацыйны пратакол склалі па артыкуле 17.5 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Згодна з артыкулам, мужчыну пагражае штраф або адміністрацыйны арышт.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Затрымалі рыбака, які налавіў вугроў на 46 тысяч рублёў

МЯДЗЕЛ

На мінулым тыдні дзяржінспектары затрымалі на возеры Баторына жыхара Мядзела, які электравудай злавіў дзесяць вугроў.

У 2015 годзе за незаконную здабычу вугра парушальніка ўжо пазбаўлялі волі на паўтара года. Цяпер за дзесяць вугроў і пяць іншых рыб, якіх злавіў, ён павінны будзе заплаціць 46 тысяч рублёў. Фігурант пад вартай. Узбудзілі крымінальную справу.

У інспекцыі нагадваюць, што ў Беларусі аматарская лоўля вугра забароненая.

**Паводле tvr.by.**

## Акцыю «Не пакідайце дзяцей адных!» праводзяць дыстанцыйна

МАЛАДЗЕЧНА

«Не пакідайце дзяцей адных!» Пад такой назвай ад 11 мая да 1 чэрвеня ў Маладзечанскім раёне праводзяць прафілактычную акцыю, прымеркаваную да Міжнароднага дня сям'і і Дня абароны дзяцей.

Работнікі МНС прыцягнуць увагу грамадскасці да праблемы дзіцячага свавольства з агнём і гібелі дзяцей на пажарах.

Мэта акцыі: знізіць колькасць надзвычайных сітуацый з удзелам дзяцей у побыце, на вуліцы, грамадскіх месцах, на вадаёме. Сёлета фармат зносінаў і сустрэчаў работнікаў МНС з насельніцтвам будзе адрозніваацца тым, што яны пройдуць дыстанцыйна.

Мы пастараліся прадугледзець мерапрыемствы як для бацькоў, так і для дзяцей. На мясцовым радыё правядуць віктарыну. У некаторых школах вучні паўдзельнічаюць у аглядзе-конкурсе «Я ў выратавальнікі б пайшоў…». Для маладых мам, шматдзетных бацькоў заняткі арганізуюць у анлайн-рэжыме. Разам з піцай даставяць у школы навучальную прадукцыю ад МНС.

Штогод дзеці становяцца міжвольнымі ўдзельнікамі падзей, пры якіх атрымліваюць рознага роду траўмы. Дапытлівасць, фізічная актыўнасць, невялікі жыццёвы досвед, адсутнасць бацькоўскага кантролю – асноўныя складнікі надзвычайных сітуацый з удзелам малалетніх.

**Марына ГАНЧАРОВА, ГРАНС Маладзечна.**

## Кіроўца «Форда» збіла лася і трапіла ў бальніцу

АШМЯНЫ
АСТРАВЕЦ

11 мая каля дзесяці вечара на мяжы Ашмянскага і Астравецкага раёнаў машына сутыкнулася з ласём.

Здарэнне адбылося каля вёскі Талоцішкі. За рулём аўтамабіля «Форд» была 34-гадовая астраўчанка. Яна наехала на лася, які перабягаў дарогу.

Удар прыйшоўся на бок кіроўцы. Жанчыну з цяжкімі траўмамі шпіталізавалі.

**Паводле ДАІ УУС Гродна.**

## У пенсіянераў скралі грэчку, сушкі і хлеб

МАЛАДЗЕЧНА

Супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС затрымалі двух мужчынаў, якіх падазраюць у крадзяжы.

Інцыдэнт адбыўся днямі на вуліцы Вольнай у Маладзечне. На лінію 102 патэлефанаваў 62-гадовы пенсіянер, які паведаміў пра тое, што стаў ахвярай зламыснікаў. Па словах заяўніка, невядомыя на вуліцы стукнулі яго і выхапілі з рук торбу, у якой мужчына нёс некалькі пачкаў грэкі, сушкі і бохан хлеба. Пасля гэтага зламыснікі зніклі ў невядомым кірунку, але пенсіянер запомніў іх, расказала афіцыйны прадстаўнік РАУС Маладзечна **Юлія Крук.**

Арыенціроўку з прыкметамі падазраваных перадалі ўсім нарадам і аператыўным супрацоўнікам. Але тыя ўжо былі затрыманыя. Незадоўга да атрымання арыенціроўкі мужчынаў заўважылі правааахоўнікі. Яны хаваліся ў кустах, недалёка ад месца здарэння.

Падазраваных затрымалі і даставілі ў РАУС. У ходзе праведзеных мерапрыемстваў міліцыянеры ўстанавілі, што менавіта гэтыя фігуранты адкрыта выкралі сумку ў пенсіянера.

Яны сілай вырвалі пакет, у руках у пацярпелага засталіся толькі ручкі ад пакета, а на асфальце – крошкі ад сушак. Падчас затрымання мужчыны ўжо былі п'яныя, што пацвердзіла медыцынскае даследаванне.

Дзеянням кожнага з фігурантаў дадуць прававую ацэнку.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Хочаш дасягнуць поспеху – спярша папрацуй у канкурэнта

## Гаспадар салона штор «ГардзінСтыль» расказвае, як пачаць бізнес

**Пра тое, як абраць кірунак бізнесу, развіваць яго і якіх памылак можна пазбегнуць, распавядае маладзечанскі прадпрымальнік Сяргей Кунавіч.**

### Ні дня працы па спецыяльнасці

Сяргей закончыў сярэднюю школу №5 у Маладзечне. Пасля дзявятага класа ў 1995 годзе паступіў у Маладзечанскі політэхнічны каледж на спецыяльнасць «Радыёапаратабудаванне». Заўсёды вучыўся добра. Але па спецыяльнасці не працаваў ніводнага дня.

Адразу пасля вучобы пайшоў у армію. А калі вярнуўся, стаў індывідуальным прадпрымальнікам.

### Прыйшоў да ідэі салона штор

Да таго, як з'явілася ідэя салона штор, Кунавіч меў некалькі бізнесаў. Спачатку адкрыў магазін па продажы карнізаў і асвятляльных прыбораў.

Пасля арганізаваў невялікую вытворчасць металічных дзвярэй, затым пачаў прадаваць міжпакаёвыя дзверы, арганізаваў вытворчасць жалюзі і працу з нацяжнымі столямі. У свой час усе гэтыя бізнесы былі актуальныя. Але расла канкурэнцыя, а попыт на тавары падаў, таму даводзілася іх закрываць.

– На той момант я яшчэ практычна нічога не ведаў пра правілы вядзення бізнесу і ўсё рабіў па інтуіцыі, – дзеліцца Сяргей.

### Распачаў бізнес штор

Ідэя пачаць справу са шторамі бярэ пачатак ад 2013 года. Сяргей бачыў, што ў іншых гэта справа пасяховая, і вырашыў паспрабаваць.

У той час працаваў з напарнікам.

– Нарабілі кучу памылак, патрацілі нямала грошай. Шмат эксперыментавалі і выбудоўвалі зусім новую тэхналогію па працы з кліентамі, – прыгадвае Кунавіч.

Для развіцця фірмы спатрэбілася ўкладаць уласныя грошы, а таксама прыцягвалі крэдытныя сродкі. Наймалі дызайнераў, швачак, тэхнолагаў. Былі патрэбныя вузкія спецыялісты, таму многаму вучылі работнікаў самі прадпрымальнікі.

Самі ж распрацавалі бізнес-план, даводзілася некалькі разоў мяняць. З-за складанай спецыфікі справы доўгі час не атрымлівалася яго выканаць.

– Калі вырашыў займацца шторамі, то зрабіў вялікую памылку, – расказвае бізнесмен. – Я пачаў займацца бізнесам, які зусім не ведаў. І вучыўся толькі на сваіх памылках.

### Як наладзілі працу

Спачатку прадпрымальнікі не мелі свайго салона, а прадавалі шторы анлайн. Затым дызайнеры фірмы пачалі прыязджаць да кліентаў дадому, каб падабраць шторы на месцы. Пасля пашыву прадстаўнікі салона «ГардзінСтыль» самі прыязджалі і развешвалі новыя шторы. Працэс няпросты, у ім неабходна многае прадугледзець, каб кліент быў задаволены.

Для пошуку кліентаў выбудавалі цэлую маркетынгавую стратэгію, распрацавалі свой алгарытм. Часам гэтага было мала, фірме трэба было больш кліентаў.

### Парады маладым прадпрымальнікам

– Першая вялікая памылка прадпрымальнікаў, у тым ліку і мая, – выбар няправільнага прадукту, – дзеліцца Сяргей Кунавіч. – Трэба разумець, якія перспектывы ў прадукту на вашым рынку. Разумець і разбірацца ў самім прадукце. А самае галоўнае – вельмі любіць тое, чым займаешся. Сёння вялізная канкурэнцыя ва ўсіх сферах, толькі дасведчаныя людзі дасягаюць поспеху.

Калі хочаш зрабіць менш памылак і выдаткаваць менш грошай – спачатку ідзі працаваць да канкурэнта, дабіся поспеху ў яго. Назапашвай досвед і веды, а пасля пачынай сваю справу. Гэта самы правільны шлях.

### Важна вырашаць праблемы

Займаючыся бізнесам, Сяргей перажыў не адзін крызіс і не адзін спад. Але моцны не той, хто не падае, а той, хто ўстае і працягвае ісці далей, упэўнены прадпрымальнік.

– У такія часы дапамагалі кантакты. Важна кантактаваць з кліентамі, напарнікам, пастаўшчыкамі. Заўсёды знаходзілі агульную мову і вырашалі праблему.

### Як падбіраць персанал

Па досведзе Кунавіча, гэта асобная тэхналогія. Калі яе прымяняць, то ўсё атрымаецца. Трэба толькі вывучыць.

– Увогуле праца ў бізнесе – такая ж навука, як і кіраванне машынай. Калі ведаеш тэорыю і прымяняеш правільна, то ўсё лёгка. Таму не бойцеся вывучаць штосьці новае.

### Калі варта браць крэдыт у банку

– У тых выпадках, калі купляеце нерухомасць, абсталяванне, павялічваеце магутнасці вытворчасці, – распавядае бізнесмен. – Крэдыт трэба браць тады, калі пры яго дапамозе вы зможаце зарабіць і пагасіць крэдыт.



Прадпрымальнік з Маладзечна Сяргей Кунавіч.



Фота забяспечана Сяргеем КУНАВІЧАМ.

Прадукцыя кампаніі «ГардзінСтыль».

Кіраўніцтва кампаніі «ГардзінСтыль» нядаўна змяніла стратэгію бізнесу. Фірма пазіцыянуе сябе як аптовая арганізацыя па продажы тканіны і фурнітуры. Цяпер «ГардзінСтыль» дапамагае прадпрымальнікам-пачаткоўцам зарабляць пры дапамозе сваёй прадукцыі.

*Старонка падрыхтаваная ў межах сумеснага праекта «Будуем мару з «Белаграпрамбанкам».*




НАЧНИ БИЗНЕС ЛЕГКО С НАДЕЖНЫМ ПАРТНЕРОМ

ПАКЕТ УСЛУГ "ДЕБЮТНЫЙ"

- неограниченное количество платежей
- справки - бесплатно
- прием наличных через кассу и посредством банкомата - бесплатно
- выдача наличных со счетов - 2% от суммы
- открытие счета и подключение интернет-клиента - бесплатно
- от 1 рубля в месяц

Бизнес в смартфоне вместе с белагропромбанк

УНП 100693551

# Ці праўда, што людзі з ВІЧ найбольш схільныя да COVID-19

**Штогод у трэцюю нядзелю мая ва ўсім свеце адзначаюць Дзень памяці людзей, якія памерлі ад СНІДу.**

Мэта гэтага дня – успомніць пра памерлых, выказаць салідарнасць з людзьмі, якія жывуць з ВІЧ/СНІДам, праінфармаваць і мабілізаваць грамадства, прымусіць задумацца пра тое, што эпідэмія СНІДу можа закрануць кожнага з нас. Сёлета гэта дата прыходзіцца на 17 мая.



Ад эпідэміі COVID-19 маладзечанцы засцерагаюцца маскамі.

### Сёння ВІЧ-інфіцыраваныя могуць жыць напоўніцу

На пачатак 2020 года ў свеце налічвалася каля 39 мільёнаў чалавек з ВІЧ-інфекцыяй. Захворванне забрала больш за 32 мільёны чалавечых жыццяў. Аднак дзякуючы пашырэнню доступу да эфектыўных сродкаў прафілактыкі, дыягностыкі і лячэння ВІЧ і апартуністычных інфекцый, а таксама догляду за пацыентамі, ВІЧ-інфекцыя як хранічнае захворванне паддаецца тэрапіі.

> **Сёння ВІЧ-інфіцыраваныя могуць пражыць доўгае паўнавартаснае жыццё і нарадзіць здаровых дзяцей.**

Міністэрства аховы здароўя Беларусі прымае ўсе меры па пашырэнні даступнасці антырэтравіруснай тэрапіі для ВІЧ-пазітыўных асоб. Выканаўчы дырэктар ЮНЭЙДС – інавацыйнага партнёрства ААН – **Мішэль Сідзібе**, кажучы пра Беларусь, адзначыў:

– Беларусь дэманструе, што спыненне эпідэміі СНІДу знаходзіцца ў межах дасяжнасці.

### Не панікаваць, а хутчэй пачынаць лячыцца

На працягу некалькіх апошніх гадоў у сацыяльных сетках сфарміраваліся групы падтрымкі, дзе ўдзельнікі дзеляцца сваімі гісторыямі пра жыццё з ВІЧ і пра лячэнне, дапамагаючы адзін аднаму супрацьстаяць стыгме і дыскрымінацыі і не губляць матывацыю.

Цяпер у гэтых групах з'явілася новая папулярная тэма для абмеркавання, звязаная з COVID-19. Інфармацыі шмат, але не ўся яна праўдзівая. Таму неабходна старацца атрымліваць звесткі з крыніц, вартых даверу.

> **На дадзены момант няма ніякіх сведчанняў таго, што людзі, якія жывуць з ВІЧ, найбольш схільныя заразіцца новым вірусам.**

Аднак ёсць меркаванне, што ў такіх людзей захворванне можа працякаць у больш цяжкай форме, калі яны не прымаюць антырэтравірусныя прэпараты. Таму, калі ў пацыента знаходзяць ВІЧ, яму неабходна пачаць лячэнне як мага хутчэй.

Не варта панікаваць, трэба проста прымаць антырэтравірусную тэрапію і старанна выконваць правілы асабістай гігіены і паводзін, рэкамендаваныя для ўсіх груп насельніцтва без выключэння. Важна захоўваць спакой. Падтрымліваць адзін аднаго і клапаціцца адзін пра аднаго дыстанцыйна. Досвед эпідэміі ВІЧ сведчыць пра тое, што канфідэнцыяльнасць зніжае страх стыгмы і дыскрымінацыі, умацоўвае давер паміж пацыентамі і медыкамі, павышае даступнасць тэсціравання.

### Што з ВІЧ у Маладзечне

У Маладзечанскім раёне зарэгістраваны 118 выпадкаў ВІЧ (70 – па горадзе і 48 – па раёне), памерлі 16 чалавек.

> **Па-ранейшаму асноўнай прычынай інфіцыравання застаецца кантактны палавы шлях перадачы – 81,3%.**

Усё больш выпадкаў назіраецца сярод асоб узроставых груп 30-34 гадоў, 35-39 гадоў, 40 і старэйшых – 56,8%. Большая палова з іх – асобы рабочых спецыяльнасцяў. На долю мужчын прыходзіцца 60,2%.

Сёння кожны чалавек можа ўнесці свой уклад у справу барацьбы з эпідэміяй, зберагчы сябе і сваіх блізкіх. Для гэтага варта прайсці своечасовае бясплатнае тэсціраванне на ВІЧ і адказна ставіцца да свайго здароўя.

**Маргарыта ПРАЦКОВА,**
**доктар-эпідэміёлаг**
**Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

# Якія парушэнні дапускаюць дзяржорганы падчас адміністрацыйных працэдур

**Некалькі гадоў у Камітэт дзяржаўнага кантролю Мінскай вобласці паступаюць цалкам абгрунтаваныя звароты грамадзян пра тое, што дзяржорганы ці іншыя арганізацыі парушаюць заканадаўства аб адміністрацыйных працэдурах.**

Напрыклад, у Пераліку адміністрацыйных працэдур, што ажыццяўляюцца дзяржаўнымі органамі і іншымі арганізацыямі па заявах грамадзян, Беларусь ад 26.04.2010 №200 (далей – Пералік), ёсць пункт 2.4. У ім апісаная такая працэдура, як выдача даведкі аб памеры заработнай платы. Па заяве грамадзяніна даведку павінны выдаць не пазней за пяць дзён з дня звароту. А ў адпаведнасці з часткай другой пункта 1 артыкула 27 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб асновах адміністрацыйных працэдур» адміністрацыйнае рашэнне (у тым ліку і ў форме даведкі), прынятае ў пісьмовай форме (яго копія, выпіска з яго), альбо паведамленне аб такім вырашэнні выдаюцца зацікаўленай асобе або накіроўваюцца кур'ерам ці па пошце не пазней за сем працоўных дзён з дня прыняцця адпаведнага рашэння. Часам арганізацыі парушаюць вышэйзгаданыя, устаноўленыя заканадаўствам тэрміны.

Мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы таксама парушалі тэрміны адміністрацыйнай працэдуры па выдачы рашэння аб дазволе на рэканструкцыю жылых і (або) нежылых памяшканняў у шматкватэрных, блакіраваных жылых дамах, аднакватэрных дамах, а таксама нежылых капітальных пабудоў на прысядзібнай тэрыторыі. Тэрмін – 1 месяц ад дня падачы заявы – прадугледжаны падпунктам 9.3.2 пункта 9.3 Пераліку. Спецыялісты Камітэта заўважылі значнае перавышэнне ўстаноўленага тэрміну.

Былі выпадкі, калі работнікі некаторых дзяржаўных органаў патрабавалі ад грамадзян для пэўных працэдур падаць тыя дакументы і звесткі, якія не прадугледжвае заканадаўства.

Так, падчас адміністрацыйнай працэдуры па аказанні паслуг па газіфікацыі аднакватэрнага жылога дома газазабеспячэнскай арганізацыяй мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы накіравалі зацікаўленай асобе ліст з патрабаваннем падаць даведку пра кампенсацыю выдаткаў па газіфікацыі жылога дома. Заканадаўства падачы такой даведкі не патрабуе.

Адказнасць за гэтыя правапарушэнні прадугледжаная артыкулам 9.26 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях. Гэта штраф ад 108 270 рублёў. Вінаватых службовых асоб арганізацый, якія допусцілі такія парушэнні, Камітэт дзяржкантролю ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку прыцягнуў да адказнасці.

**Упраўленне экспертна-прававой работы і зваротаў грамадзян Камітэта дзяржкантролю Мінскай вобласці.**



Ліза Лісоўская.

# Збіраюць грошы на лячэнне дзяўчынкі

**У Лізы Лісоўскай з Мінска спінальная мышачная атрафія другога тыпу. Дзяўчынцы патрэбная дапамога, каб набыць прэпарат спінраза (Spinraza).**

Сума збору складае 576 210 еўра. Гэта шэсць ін'екцый на першы год тэрапіі.

Сёння існуюць тры эфектыўныя тэрапіі пры такім захворванні. Яны даступныя пацыентам з многіх краін, але не ў Беларусі. На адно з іх – Спінразу – сям'я Лісоўскіх і адкрыла дабрачынны збор.

На красавік 2020 года клінічна даказана, што спінраза (Spinraza) дае людзям, хворым на СМА, перспектыву на якаснае, доўгае, сацыяльна-актыўнае і плённае жыццё. Адмова ў прэпараце – гэта прысуд для Лізы.

Дзяўчынка яшчэ можа сядзець самастойна з падтрымкай і сядзець у паставе «зайчыка», есці сама лыжкай, але прыходзіцца дапамагаць. Любіць стаяць у вертыкалізатары, ляпіць з пластыліну і пяску розныя фігуркі, маляваць алоўкамі, фарбамі, чытаць кніжкі і танцаваць з бацькамі пад любімыя песні. Вельмі любіць гуляць з дзеткамі, асабліва на дзіцячых пляцоўках, катацца на горках, на арэлях.

Лізе можна дапамагчы.

Самы просты спосаб – папоўніць баланс нумара МТС +375 33 326-50-32.

Старонка Лізы: **molamola.by/campaigns/3309.**

**Аддзел інфармацыі.**

# Для дашкольнікаў зладзілі спартыўнае свята да Дня Перамогі


Падчас свята.

**СМАРГОНЬ**

**У першыя сем гадоў жыцця ў дзяцей фарміруюцца найважнейшыя рухальныя навыкі, закладваюцца асновы здароўя, і таму для выхаванцаў у садку вялікую ролі адыгрывае фізкультура.**

У яслях-садку №13 фізкультурна-аздараўленчая работа накіравана на пошук шляхоў паўнацэннага фізічнага развіцця дзяцей і на фарміраванне асноў здаровага ладу жыцця.

Напярэдадні Дня Перамогі для выхаванцаў старэйшай групы педагогі правялі спартыўнае мерапрыемства, прысвечанае святу. Кіраўнік фізічнага выхавання расказала дзецям пра подзвіг нашага народа, пра гераізм салдат, пра тое, як трэба любіць і берагчы сваю Радзіму.

**Дзеці ўдзельнічалі ў конкурсах і эстафетах, пераправяляліся праз балота, збіраліся ў паход, пераносілі параненых.**

Нягледзячы на сапернiцтва, у спартыўнай зале панавала атмасфера весялосці. Каманды імкнуліся да перамогі, але перамагла дружба. У канцы мерапрыемства ўсе пажадалі адзін аднаму мірнага неба над галавой і моцнага здароўя.

**Таццяна ВАСІЛЕЎСКАЯ,**
**намеснік загадчыка па асноўнай дзейнасці ясляў-сада №13 горада Смаргоні.**


# Уся праўда аб крадзяжы электраэнергіі




**Спецыялісты філіяла «Маладзечанскія электрычныя сеткі» РУП «Мінскэнерга» актыўна вядуць работу па выяўленні фактаў безуліковага спажывання электраэнергіі.**

У філіяле ёсць спецыялізаваная брыгада па выяўленні і спыненні безуліковага спажывання электраэнергіі. Штодня праводзіцца рэйдавая работа з мэтай выяўлення фактаў крадзяжу электраэнергіі як па горадзе Маладзечна, так і па ўсіх раёнах абслугоўвання філіяла (Маладзечанскім, Валожынскім, Вілейскім і Мядзельскім).

За чатыры месяцы 2020 года спецыялісты філіяла правялі больш за 100 рэйдаў, у ходзе якіх праверылі больш за 1000 аб'ектаў. На парушальнікаў складаюцца акты аб самавольным безуліковым спажыванні электрычнай энергіі.

**Кожны такі выяўлены выпадак цягне за сабой пакрыццё шкоды за спажытую электраэнергію ў добраахвотным, а ў выпадку адмовы – у судовым парадку.**

Акрамя кампенсацыі страт па факце крадзяжу электраэнергіі, спажыўцы прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасці і ў адпаведнасці з артыкулам 20.10 Адміністрацыйнага кодэкса Рэспублікі Беларусь выплачваюць штраф у памеры пяціразовай сумы нанесенай шкоды.

Хацелася б звярнуць увагу грамадзян, што выкарыстоўванне розных метадаў безуліковага спажывання электраэнергіі (ці проста крадзяжу) прыводзіць да перагрузак, кароткіх замыканняў, паломак у электрасетцы, узнікае небяспека паражэння чалавека электрычным токам. Усё гэта можа прывесці да вельмі трагічных наступстваў!

**Калі вы валодаеце якой-небудзь інфармацыяй аб крадзяжы электраэнергіі, то можна ананімна паведаміць пра гэта па адрасе: вул. Драздовіча, 27 ці па тэлефоне 8 (0176) 72-62-60 або на e-mail: moles@minskenergo.by.**

**Таксама звяртаемся да ўсіх спажыўцоў электрычнай энергіі: аплачвайце штомесяц спажытую электрычную энергію!**

Згодна з дагаворам на электразабеспячэнне, пры запазычанасці па аплаце за два і больш разліковыя перыяды і непагашанай запазычанасці энергазабеспечвальная арганізацыя мае права прыпыніць аказанне паслуг энергазабеспячэння ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку. Аднаўленне аказання паслуг энергазабеспячэння ажыццяўляецца ў парадку чарговасці пасля поўнага пагашэння абанентам запазычанасці і аплаты выдаткаў на адключэнне і падключэнне ў адпаведнасці з калькуляцыяй.

**Філіял Маладзечанскія электрычныя сеткі РУП «Мінскэнерга»**

УНП 100071593

## Беларусь 1

**6.00** Існасць [СТ].

**6.25, 21.45** Х/ф **«НАВАЖДЕНИЕ».**

**8.25** Кулинарная дипломатия.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** Смысл жизни. Александра Гайдук.

**9.45** Здоровье [СТ].

**10.30** Дача.

**11.05, 12.10** Х/ф **«ПИСЬМО НАДЕЖДЫ».**

**15.15** Краіна.

**15.45** «Незабытый подвиг». Хроникально-документальный телефильм.

**16.10** Х/ф **«НА САМОЙ ГРАНИ».**

**20.00** «Макаёнка, 9». Суботнее шоу.

**21.00** Панорама.

**1.45** День спорта.

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.45** Т/с **«ТИМОН И ПУМБА».**

**9.30, 21.05** Телебарометр.

**9.35** Х/ф **«БИ МУВИ: МЕДОВЫЙ ЗАГОВОР».**

**11.00** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**11.50** Копейка в копейку.

**12.20** Камень, ножницы, бумага.

**12.55** «Верю не верю». Трэвел-шоу.

**13.45** Х/ф **«КОСМОС МЕЖДУ НАМИ».**

**15.45** «Меняю жену». Реалити-шоу.

**17.20** «Свадьба вслепую». Реалити-шоу.

**19.10** Х/ф **«КОМНАТА СТРАХА».**

**21.10** Спортлото 6 из 49, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«ЖЕЛЕЗНЫЙ ЧЕЛОВЕК 2».**

**23.25** «Орел и Решка. Перезагрузка «. Трэвел-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Сіла веры».

**8.00, 14.40, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 15.00, 20.35** Гэты дзень.

**8.25** «Вовка в тридевятом царстве». Мультфілм.

**8.45** «Калі ласка, або Пабочным асобам уваход забаронены!» Мастацкі фільм СТ.

**10.00** «Жывая культура». Традыцыя вырабу саламяных павукоў у Быхаўскім раёне Магілёўскай вобласці.

**10.25** «Беларуская кухня». Клёцкі па-карэвіцку.

**10.55** «Бронзавая птушка». Мастацкі фільм СТ.

**14.15** «Навукаманія».

**15.05** «Я хачу гэта ўбачыць!».

**15.30** «Чатыры танкісты і сабака» Шматсерыйны мастацкі фільм. 4-я – 6 с.

**18.20** «Славянскі базар у Віцебску-2018». Канцэрт «Залаты хіт».

**20.00** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць – архівіст, літаратуразнаўца, даследчыца жыцця і творчасці Якуба Коласа Вера Міцкевіч.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Зайчык». Мастацкі фільм.

**22.30** «Тэатр у дэталях». Спектакль Вялікага тэатра Беларусі «Стварэнне свету».

**22.55 Т/ф «СТВАРЭННЕ СВЕТУ».**

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** ОНТ представляет: «Марков. Ничего личного».

**7.45** ОНТ представляет: «Профессиональная среда».

**8.10** «Непутёвые заметки».

**8.30** ОНТ представляет: «Цель 99. Дом без отходов».

**9.10** Х/ф **«ВЕРНЫЕ ДРУЗЬЯ».**

**11.00** «Видели видео?».

**12.50** Премьера. «На дачу!» с Наташей Барбье.

**14.00** «Эльдар Рязанов. Человек-праздник».

**16.20** «Кто хочет стать миллионером?» с Дмитрием Дибровым.

**17.55, 21.10** «Сегодня вечером».

**20.00** «Наши новости». Субботний выпуск.

**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».

**23.30** Х/ф **«ДВА ДНЯ».**

## СТВ

**6.05, 1.45** «Живая тема».

**7.50** «Анфас».

**8.10** «Самая полезная программа».

**9.05** Документальный проект.

**10.00** «Минск и минчане».

**10.30** «Центральный регион».

**11.00, 20.00** Документальный спецпроект.

**12.35, 13.40, 16.40** Т/с **«ВСКРЫТИЕ ПОКАЖЕТ».**

**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».

**21.35** «Территория заблуждений».

**22.40** Т/с **«ПРОВОКАТОР».**

## Мир

**6.00, 7.50, 4.40** Мультфильмы.

**7.20** «Секретные материалы».

**8.35** «Наше кино. История большой любви».

**9.05** Ток-шоу «Слабое звено».

**10.00, 16.00, 19.00** Новости.

**10.10** Х/ф **«ЗИТА И ГИТА».**

**13.15** Х/ф **«ТАНЦОР ДИСКО».**

**16.15, 19.15** Х/ф **«БОЛЬШАЯ ПЕРЕМЕНА».**

**22.00** Х/ф **«ФОРМУЛА ЛЮБВИ».**

**23.40** Х/ф **«ТАНКЕР «ТАНГО».**

**1.45** Х/ф **«АМЕРИКАНСКАЯ ДОЧЬ».**

**3.15** Х/ф **«ДЕВУШКА С ХАРАКТЕРОМ».**

## НТВ-Беларусь

**6.05** «Астропрогноз».

**6.10** Сегодня. Главное.

**6.15** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.50** «Истории ремонта».

**7.20** «Дача».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «ЧП.by: Время итогов».

**8.55** «Города Беларуси».

**9.25** «Врачебные тайны плюс».

**10.25** Главная дорога.

**10.55** «Живая еда с Сергеем Малозёмовым».

**11.45** Квартирный вопрос.

**12.40** «Поедем, поедим!».

**13.50** Истории спасения.

**14.25** Т/с **«МАМОЧКА, Я КИЛЛЕРА ЛЮБЛЮ».**

**16.25** «Секрет на миллион» Лидия Федосеева-Шукшина, 2 ч.

**18.05** «Следствие вели…».

**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.

**20.35** Х/ф **«БИРЮК».**

**0.00** «Крутая История».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«СВАТЫ».**

**9.10** Х/ф **«БУКЕТ».**

**11.00** ВЕСТИ.

**11.30** «По секрету всему свету».

**12.25** Х/ф **«ТРИЖДЫ О ЛЮБВИ».**

**14.10** ПРЕМЬЕРА. «100ЯНОВ». Шоу Юрия Стоянова.

**15.15** ПРЕМЬЕРА. Всероссийский потребительский проект «Тест».

**16.20** Х/ф **«СЖИГАЯ МОСТЫ».**

**19.45** «Плюс-минус».

**20.00** ВЕСТИ В СУББОТУ.

**20.40** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.

**22.25** Х/ф **«НЕОТПРАВЛЕННОЕ ПИСЬМО».**

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 18.30** Шрэк 2. **9.50** Грязные танцы 2: Гаванские ночи. **11.20** Дорогой Джон. **13.10** Мамма MIA! **15.10** Свадебный Переполох. **17.00** Шрэк. **20.10** Капитан Филлипс. **22.35** Гонка века. **0.20** Прощай, детка, прощай. **2.20** Реальные упыри. **3.55** Дракула.

### TV1000 ACTION

**7.30** План побега. **9.40** Гонщик. **11.45** Тюряга. **13.35** Вавилон Н.Э. **15.20** Эквилибриум. **17.10** Стелс. **19.10** Три девятки. **21.10** Мальчики-налётчики. **23.00** Убить гонца. **0.55** Пророк. **2.30** Глубоководный горизонт. **4.20** Время ведьм.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.10** Храни меня, мой талисман. **8.25** Статский советник. **10.50, 11.45, 12.45, 13.40** Турецкий гамбит. **14.40** Непрощённый. **16.35** Легенда №17. **19.00** Лёд. **20.55** Каникулы строгого режима. **22.55** Джентльмены, удачи! **0.40** Текст. **3.05** СуперБобровы. **4.45** СуперБобровы. Народные мстители.

### ТВ3

**6.00, 9.45** Мультфильмы. **9.30** «Рисуем сказки». **10.00, 11.00, 12.00** Т/с **«ГРИММ». 12.45** Х/ф **«12 РАУНДОВ: БЛОКИРОВКА». 14.30** Х/ф **«ЧЕРНОЕ МОРЕ». 17.00** Х/ф **«В АДУ». 19.00** Х/ф **«РАЗРУШИТЕЛЬ». 21.15** Х/ф **«НЕУДЕРЖИМЫЙ». 23.00** Х/ф **«СМЕРТНЫЙ ПРИГОВОР». 1.00, 1.45, 2.15, 2.30, 3.00, 3.30, 4.00, 4.30, 5.00, 5.30** «Охотники за привидениями. Битва за Москву».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«НАПАРНИЦЫ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«АДМИРАЛ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ПЛАЦЕНТА». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ПРИМАДОННА».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.50** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА». 2.50** Х/ф **«ГИТЛЕР КАПУТ». 4.35** Х/ф **«ОЧЕНЬ ОПАСНАЯ ШТУЧКА». 6.05** Х/ф **«НЕСМОТРЯ НИ НА ЧТО». 8.20** Х/ф **«УКРАДИ МОЮ ЖЕНУ». 10.15** Х/ф **«МАЛЬЧИШНИК В НОВОМ ОРЛЕАНЕ». 11.55** Х/ф **«СЛУЧАЙНЫЙ МУЖ». 13.35** Х/ф **«МОНАШКИ В БЕГАХ». 15.30** Х/ф **«БЕЗ ТОРМОЗОВ». 17.15** Х/ф **«ОХОТНИК ЗА ГОЛОВАМИ». 19.30** Х/ф **«РЭД 2». 21.35** Х/ф **«ДОМ С ПАРАНОРМАЛЬНЫМИ ЯВЛЕНИЯМИ». 23.10** Х/ф **«ДОМ С ПАРАНОРМАЛЬНЫМИ ЯВЛЕНИЯМИ 2».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.30** Черный список. **1.40, 2.35** Григорий Р. **3.30, 4.35, 5.35, 6.35, 7.35, 8.35, 9.30, 10.30, 11.30, 12.30, 13.25, 14.25** Инквизитор. **15.30, 16.25, 17.25, 18.25, 19.25, 20.25, 21.20, 22.20** Дело гастронома №1. **23.15** Фантазия белых ночей.

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.30, 9.05, 9.55, 10.30, 11.40, 13.25, 15.50, 18.10, 19.55, 20.55, 22.50** Погодка. **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.10** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **9.30** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **10.00** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **10.35** Travel-шоу «ВОКРУГ СВЕТА ВО ВРЕМЯ ДЕКРЕТА». **11.30** Мультфильмы «ВОЛШЕБНАЯ КНИГА». **11.45** Х/ф **«МАХНИ КРЫЛОМ». 13.30** Х/ф **«МАСКА ЗОРРО». 15.55** Х/ф **«ЛЕГЕНДА ЗОРРО». 18.15** Х/ф **«БАРМЕН». 20.00** Шоу «СТЕНДАП АНДЕГРАУНД». **21.00** Х/ф **«ДВА СТВОЛА». 22.55, 2.30** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **0.15** Ужасы «ПОСЛАННИКИ». **1.40** Юмористическое шоу «СЛАВА БОГУ, ТЫ ПРИШЁЛ!». **3.50** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **5.00** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Азбука спорта. **7.10** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 10-й тур. Шахтер (Солигорск) – Белшина (Бобруйск). **9.05** Мир английской премьер-лиги. **9.35, 23.15** Хоккей. Чемпионат мира. **11.45** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. **12.15** Тренировочный день. **12.45** Большой спорт. **13.30** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 10-й тур. Превью. **14.00** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 10-й тур. ФК Смолевичи – ФК Минск. **16.20** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 10-й тур. ФК Слуцк – Рух (Брест). **18.20** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 10-й тур. Ислочь (Минский р-н) – РЦОР-БГУ (Минск). **20.20** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 10-й тур. ФК Витебск – Динамо-Минск. **22.30** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура.

### EUROSPORT

**0.00** Автогонки. FIA Championship-2017/18. Париж. **1.00** Автогонки. WTCR-2018. Нинбо. Вторая гонка. **1.45** Автогонки. WTCR-2018. Нинбо. Третья гонка. **2.30** Снукер. China Championship-2019. 1/4 финала. Селби – Хоукинс. **4.00** Снукер. China Championship-2019. 1/2 финала. Селби – Мёрфи. **6.00** Автогонки. Формула Е-2017/18. Цюрих. **7.00** Автогонки. WTCR-2018. Сузука. Вторая гонка. **7.30** Автогонки. WTCR-2018. Сузука. Третья гонка. **8.30** Автогонки. «24 часа Ле-Мана»-2018. Обзор. **9.30, 20.00** Теннис. Player's Cut. Рафаэль Надаль. **12.30** Снукер. Scottish Open-2019. Четвёртый день. Селби – Дж. Робертсон. **13.30** Снукер. Scottish Open-2019. 1/4 финала. Селби – О'Салливан. **15.00, 16.30** Велоспорт. Классика «Джиро-д'Италия». **18.00** Велоспорт. «Тур де Франс»-2019. 14-й этап. **23.00** Олимпийские игры. «Зал славы». Величайшие велогонщики.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 7.30, 14.00, 14.30, 18.00, 1.20, 2.10** Сравнительный тест. **6.30, 9.45, 11.55, 15.05, 17.45, 22.55, 0.35, 3.15** Итоговые новости. **6.45, 7.55, 16.55, 18.45** Металломщики. **8.45** Обновление. **8.55, 10.00** Резьба по стали. **9.30, 10.30** Мото тест-драйв. **10.50** Авто: вторые руки. Эксклюзив. **11.05, 19.35, 23.15, 3.25** Кругосветка по бездорожью. **11.40, 20.05, 3.55** Авто: вторые руки. **12.10, 20.30, 23.45, 4.10** Трасса А2. **13.00, 0.50** Испытание на прочность. **13.30, 1.45** Народный тест драйв. **15.20, 21.20, 4.55** Тест в большом городе. **15.55** Вечер с Пикуленко. **16.40, 22.40** Эконом-тест. **18.35, 20.20** Наезд! **21.55, 5.20** Байки про байки. **2.40** Сити тестер.

### EXPLORE

**6.00, 6.45, 7.35, 8.25, 9.10, 10.00, 19.40** Приключения на рыбалке. **10.45, 11.35** Адские грузовики. **12.25, 13.10** Переделка старья. **14.00, 14.45** Австралийские золотоискатели. **15.35, 2.15, 3.05, 3.50, 4.40** Охотники на морских ежей. **16.20, 20.30** Речные чудовища. **17.15** Масштабные инженерные ошибки. **18.00** Демонтаж самолетов. **18.50, 19.15** Нефритовая лихорадка. **21.20** Чудовищный карп. **22.10** Большое рыболовное состязание. **23.00** Большой улов. **23.50** Невероятная рыбалка. **0.40, 1.05, 1.30, 1.55** Охота на оленей. **5.25** Гараж: Последний приют.

### HISTORY

**6.10, 7.05, 7.55** Запретная история. **8.45, 9.40** Невидимые города Италии. **10.40, 11.45** Владыки Тихоокеанского побережья. **12.50, 14.00, 15.05, 16.10** Забытые королевства Центральной Америки. **17.20** Забытые королевства Южной Америки. **18.25, 19.15** Коварная Земля. **20.10, 21.00** Критская операция. **21.50, 22.45** Загадки Египта. **23.35, 0.25** Могилы викингов. **1.15, 2.20** История христианства. **3.30, 4.15, 5.05** Музейные тайны.

### NATURE

**6.00** Уличный ветеринар. **6.25** От бездомной собаки до супер-пса. **7.20, 8.20** Как выбрать щенка. **9.20, 10.20** Щенячьи секреты. **11.15, 11.40, 12.05, 12.30, 12.55, 13.20, 13.45** Пол О'Грэди: из любви к собакам. **14.15** Речные чудовища. **15.00** Природа Америки: времена года. **15.50, 16.45** Эпический Йеллоустоун. **17.35, 18.35** Дикая Канада. **19.30** Выживание в дикой природе. **20.20** Бескрайняя Африка. **21.15, 22.50, 2.55, 5.20** Мутации погоды. **22.00** Невероятные встречи с животными. **23.35, 0.00** Природа в кадре. **0.25** Жуткие, настоящие и странные. **1.15** Хищные питомцы. **2.05** Анатомия крупнейших животных. **3.40** Ветеринар из Йоркшира. **4.25** Новорожденные в зоопарке. **4.55** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Широкий взгляд с Кэлом Пенном. **6.25** Игры разума. **7.10** Враждебная планета. **8.00** Пропавшие города Амазонии: Легенда становится реальностью. **8.50** Линии Наски: Раскрытые тайны. **9.35** Затерянные сокровища змеиных царей майя. **10.25** Китай с высоты птичьего полета. **12.45, 13.35, 4.55** Авто-SOS. **14.20, 15.05, 15.55, 16.40** Расследования авиакатастроф. **17.25, 18.15** Истории спасения. **19.00, 19.45, 20.30, 2.40, 3.25, 4.10** Земля под рентгеном. **21.15** Десятка худших природных катастроф. **22.45, 23.30** Свидетели катастроф. **0.20, 1.05, 1.50** Злоключения за границей. **5.35** Научные глупости.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 6.45, 7.30, 8.35, 9.20, 10.05, 10.55, 11.40, 12.30, 13.15, 14.05, 14.50, 15.40, 16.25, 17.10, 18.00, 18.45, 19.35, 20.20, 21.10, 21.55, 22.40, 23.30, 0.15, 1.05, 1.50, 2.35, 3.20, 4.05, 4.50, 5.35** «Радзишевский и К» в поисках рыбацкого счастья. **6.30, 7.15, 9.05, 9.50, 10.40, 11.25, 12.10, 13.00, 13.45, 14.35, 15.20, 16.05, 16.55, 17.40, 18.30, 19.15, 20.05, 20.50, 21.40, 22.25, 23.10, 0.00, 0.45, 1.35, 2.20, 3.05, 3.50, 4.35, 5.20** Рецепты старого Тифлиса. **8.00** На рыбалку с охотой.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.50, 13.55, 18.05, 22.20, 2.20** Легендарные братья-пекари. **6.25, 10.15, 14.25, 18.35, 22.45, 2.50** Дачных дел мастер. **6.55, 10.50, 23.20** Как поживаете? **7.25** Дачные радости с Виталием Декабрёвым. **7.55, 12.00, 16.15, 20.05, 0.20, 4.15** Лучки-пучки. **8.10, 12.20, 16.30, 20.20, 0.35, 4.30** Доктор смузи. **8.25, 12.35, 16.45, 20.40, 0.50, 4.45** Занимательная флористика. **8.45, 12.50, 17.05, 20.55, 1.05, 5.00** У мангала. **9.15, 13.20, 17.30, 21.30, 1.35, 5.30** История одной культуры. **11.20** Квас. **11.35, 15.45, 19.35, 23.50, 3.50** Безопасность. **14.55** Дачные радости с Мариной Рыкалиной. **15.25** Готовим на природе. **19.05, 3.20** Агротуризм. **22.00** Вершки корешки. **2.05** Особый вкус.

## Беларусь 1

**6.20** Х/ф **«НАВАЖДЕНИЕ».**
**8.15** Клуб редакторов.
**9.00, 12.00, 15.00** Новости.
**9.10** «Арсенал». Программа об армии.
**9.50** Истории спасения.
**10.30** Зона Х. Итоги недели.
**11.10** Вокруг планеты.
**12.10** Новости. Центральный регион.
**12.35** Х/ф **«УСКОЛЬЗАЮЩАЯ ЖИЗНЬ».**
**14.25** Х/ф **«ОСВОБОЖДЕНИЕ».**
**15.15** Твой город.
**15.30** Маршрут построен.
**16.05** Х/ф **«БЛАГИМИ НАМЕРЕНИЯМИ».**
**19.50** «На вылет!» Развлекательно-интеллектуальное шоу.
**20.35** Навіны надвор'я.
**21.00** Главный эфир.
**22.10** Х/ф **«ПИСЬМО НАДЕЖДЫ».**

## Беларусь 2

**6.55** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**
**8.35** Т/с **«ТИМОН И ПУМБА».**
**9.20, 19.20** Телебарометр.
**9.25** «Подиум». Фэшн-шоу.
**10.20** «До свидания». Реалити-шоу.
**11.00** «Зов крови». Реалити-шоу.
**12.05** «Верю не верю». Трэвел-шоу.
**12.55** Фильм-катастрофа «Столкновение с бездной».
**14.55** «Папа попал». Реалити-шоу.
**16.30** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.
**17.20** Х/ф **«ЖЕЛЕЗНЫЙ ЧЕЛОВЕК 2».**
**19.50** «Секретный миллионер». Реалити-шоу.
**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.
**21.20** Х/ф **«КОМНАТА СТРАХА».**
**23.15** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.
**0.15** «Когда мы дома». Скетчком.

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».
**8.00, 13.55, 20.15** Навіны культуры.
**8.20, 14.15, 20.35** Гэты дзень.
**8.25** «День рождения бабушки». Мультфільм.
**8.35** «Зайчык». Мастацкі фільм.
**10.00** «Наперад у мінулае».
**10.25** «Беларуская кухня». Бабка-грачанік.
**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».
**11.50** «Сэрцы чатырох». Мастацкі фільм СТ.
**13.15** «Апошні дзень». Валянціна Сярова.
**14.20** «Льецца песня па-над Шчарай». Канцэрт.
**15.55** «Майстры і куміры». Заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Іна Афанасьева.
**16.50** «Бронзавая птушка». Мастацкі фільм СТ.
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Калі ласка, або Пабочным асобам уваход забаронены!» Мастацкі фільм СТ.
**22.20** «Pavel Arakelian (Павел Аракелян) and The Outsiders». Канцэрт.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.
**7.10** «Здоровье».
**8.05** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».
**9.10** «Воскресная проповедь».
**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».
**9.45** Т/с **«ЛЮБОВЬ ПО ПРИКАЗУ».**
**11.35** «Видели видео?».
**13.05** Премьера. «На дачу!» с Ларисой Гузеевой.
**14.15** Х/ф **«ДВА ДНЯ».**
**16.20** Премьера ОНТ. «100 имён Беларуси». «Владимир Бедуля. Летающий мужик».
**17.05** ОНТ представляет: Концерт «Тамара Гвердцители и Президентский оркестр Республики Беларусь»(12+).
**18.30** Шоу Максима Галкина «Лучше всех!».
**20.00** «Контуры».
**21.20** Премьера. Концерт «Звёзды «Русского радио».
**23.20** ОНТ представляет: «Спортклуб».
**23.40** «Что? Где? Когда?» Летняя серия игр.

## СТВ

**6.00, 0.35** «Живая тема».
**7.45, 11.00, 20.35** Документальный спецпроект.
**9.20** «Минтранс».
**10.00** «Добро пожаловаться».
**10.30** «Большой город».
**12.30, 13.40, 16.40** Т/с **«ВСКРЫТИЕ ПОКАЖЕТ».**
**13.30, 16.30** Новости «24 часа».
**19.30** «Неделя».
**22.20** «Засекреченные списки».

## Мир

**6.00** «Беларусь сегодня».
**6.30** «Еще дешевле».
**7.00** Х/ф **«САДКО».**
**8.50, 5.05** «Наше кино. История большой любви».
**9.25** «ФазендаЛайф».
**10.00, 16.00** Новости.
**10.10, 16.15, 5.30** Т/с **«ОТДЕЛ СССР».**
**18.10, 19.30, 1.00** Х/ф **«БОЛЬШАЯ ПЕРЕМЕНА».**
**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».
**2.25** Х/ф **«БОББИ».**

## НТВ-Беларусь

**6.05** «Астропрогноз».
**6.15** Terra incognita. Беларусь неизвестная.
**6.50** «Истории ремонта».
**7.25** «Дача».
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** «24 вопроса».
**8.55** Беларусы.
**9.25** «Я хочу это увидеть!».
**10.25** «Первая передача».
**10.55** «Чудо техники».
**11.45** «Дачный ответ».
**12.45** «НашПотребНадзор».
**13.55** Истории спасения.
**14.25** Т/с **«МАМОЧКА, Я КИЛЛЕРА ЛЮБЛЮ».**
**16.35** «Следствие вели…».
**18.05** «Новые русские сенсации».
**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.
**20.10** «Звезды сошлись».
**21.35** Ты не поверишь!
**22.40** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.
**23.10** Х/ф **«ТОНКАЯ ШТУЧКА».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«КАМИННЫЙ ГОСТЬ».**
**8.45** «По секрету всему свету».
**9.00** Праздник Ураза-Байрам. Трансляция из Московской Соборной мечети.
**10.00** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».
**11.00** ВЕСТИ.
**11.30** Х/ф **«НЕОТПРАВЛЕННОЕ ПИСЬМО».**
**15.20** «Роман в камне». «Германия. Замок Розенштайн».
**15.50** ПРЕМЬЕРА. «100ЯНОВ». Шоу Юрия Стоянова.
**17.50, 21.15** Х/ф **«РАДУГА ЖИЗНИ».**
**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.
**22.20** «В людях».
**22.50** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.
**23.30** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 18.25** Тепло наших тел. **8.20** Гонка века. **10.20** Реальные упыри. **11.55** Прощай, детка, прощай. **13.50** Капитан Филлипс. **16.10** Дракула. **20.10** Легенда Зорро. **22.30** Маска Зорро. **1.00** Готика. **2.40** Невидимка. **4.25** Последняя любовь на Земле.

### TV1000 ACTION

**6.00, 17.30** Человек-мотылёк. **8.15** Мальчики-налётчики. **10.10** Три девятки. **12.10** Убить гонца. **14.05** Пророк. **15.40** Глубоководный горизонт. **19.35** Реальные парни. **21.10** Starперцы. **23.00** Транссибирский экспресс. **0.55** Газетчик. **2.40** Киллер Джо. **4.20** Эверли.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.15** Черная курица, или Подземные жители. **7.40** Легенда №17. **10.00** Каникулы строгого режима. **12.00** Джентльмены, удачи! **13.45** Лёд. **15.45** СуперБобровы. **17.25** СуперБобровы. Народные мстители. **19.00** Высоцкий. Спасибо, что живой. **21.20** Мне не больно. **23.05, 5.30** В движении. **0.45** Подарок с характером. **2.20** Ржевский против Наполеона. **4.00** Семь ужинов.

### ТВ3

**6.00, 8.45, 10.00** Мультфильмы. **8.30** «Рисуем сказки». **9.30** «Новый день». **10.15, 11.15, 12.15** Т/с **«ГРИММ». 13.15** Х/ф **«КОБРА». 15.00** Х/ф **«РАЗРУШИТЕЛЬ». 17.15** Х/ф **«НЕУДЕРЖИМЫЙ». 19.00** Х/ф **«НАЁМНИК». 21.15** Х/ф **«КРАСНЫЙ ДРАКОН». 23.45** Х/ф **«ГАННИБАЛ». 2.30, 2.45, 3.15, 3.45, 4.00, 4.30, 5.00, 5.30** «Городские легенды».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«НАПАРНИЦЫ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«АДМИРАЛ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ПЛАЦЕНТА». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ПРИМАДОННА».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.45** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА 2». 2.55** Х/ф **«МАЛЬЧИШНИК В ЕВРОПЕ». 4.40** Х/ф **«ИРОНИЯ ЛЮБВИ». 6.00** Х/ф **«ЭТОТ НЕЛОВКИЙ МОМЕНТ». 8.05** Х/ф **«ЛЕТО. ОДНОКЛАССНИКИ. ЛЮБОВЬ». 9.55** Х/ф **«УЕДЕМ К ЧЕРТОВОЙ БАБУШКЕ». 11.50** Х/ф **«SUPERПЕРЦЫ». 14.00** Х/ф **«КРЫСИНЫЕ БЕГА». 16.10** Х/ф **«СКАМЕЙКА ЗАПАСНЫХ». 17.50** Х/ф **«НАША RUSSIA. ЯЙЦА СУДЬБЫ». 19.30** Х/ф **«ХОЛОП». 21.30** Х/ф **«УПРАВЛЕНИЕ ГНЕВОМ». 23.30** Х/ф **«ЗАЖГИ ЭТИМ ЛЕТОМ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.20, 1.15, 2.05** Фантазия белых ночей. **3.00, 4.00, 4.55, 5.55, 6.55, 7.55, 8.55, 9.55, 10.55, 11.55** Мёртв на 99%. **13.00, 14.00, 15.05, 16.05, 17.10, 18.10, 19.15, 20.15, 21.20, 22.20** Мосгаз. **23.20** Сговор.

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.30, 9.05, 10.25, 11.55, 12.50, 13.50, 14.55, 15.55, 17.45, 19.30, 20.55, 23.00, 0.00** Погодка. **8.35, 23.05** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.10** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **9.30** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **9.55** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.30, 2.45** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.00** Шоу «ДЕТКИ-ПРЕДКИ». **12.00** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.55, 3.15** Шоу «РОГОВ ДОМА». **13.55, 19.35, 1.25** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **15.00** Юмористическое шоу «СЛАВА БОГУ, ТЫ ПРИШЁЛ!». **16.00** Х/ф **«СОКРОВИЩЕ АМАЗОНКИ». 17.50** Х/ф **«ПАПА-МАМА ГУСЬ». 21.00** Фэнтези «ЛЕГЕНДА О КОЛОВРАТЕ». **0.05** Скетч-шоу «НЕРЕАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ». **4.05** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **5.15** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Азбука спорта. **7.10, 10.15, 12.05** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 10-й тур. **9.00** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура. **9.45** Тренировочный день. **13.55** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. **14.25** Художественная гимнастика. Этап кубка мира. **16.00** Пит-стоп. **16.30** Футбол. Кубок Беларуси. Финал. Превью. **17.00** Футбол. Кубок Беларуси. Финал. БАТЭ (Борисов) – Динамо (Брест). **19.10** Хоккей. Чемпионат мира. **21.35** Итоги недели. **22.20** Спорт-центр. **22.30** Борьба. Чемпионат мира.

### EUROSPORT

**0.00** Автогонки. Формула Е-2017/18. Цюрих. **1.00** Автогонки. WTCR-2018. Сузука. Вторая гонка. **1.30** Автогонки. WTCR-2018. Сузука. Третья гонка. **2.30** Снукер. Scottish Open-2019. Четвёртый день. Селби – Дж. Робертсон. **4.00** Снукер. Scottish Open-2019. 1/4 финала. Селби – О'Салливан. **6.00, 7.00** Автогонки. Формула Е-2017/18. Нью-Йорк. **7.30** Автогонки. WTCR-2018. Обзор сезона. **8.30** Автогонки. «24 часа Ле-Мана»-2017. Обзор. **9.30, 20.00** Теннис. Player's Cut. Рафаэль Надаль. **12.30** Снукер. Scottish Open-2019. 1/2 финала. Селби – Гилберт. **13.30** Снукер. Scottish Open-2019. Финал. Селби – Лисовски. **15.00, 16.30** Велоспорт. Классика «Джиро-д'Италия». **18.00** Велоспорт. «Тур де Франс»-2019. 15-й этап. **23.00** Олимпийские игры. «Зал славы». Величайшие гимнасты.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 14.20, 18.00, 1.15** Сравнительный тест. **6.30, 8.00, 16.55, 18.40** Металломщики. **7.15, 14.50, 2.25, 2.55** В поисках мотоприключений. **7.45, 10.25, 13.30, 16.40, 19.30, 23.30, 1.45, 3.50** Итоговые новости. **8.45, 12.45, 17.45, 0.40** Наезд! **9.00** Резьба по стали. **9.30, 9.50, 10.55** Мото тест-драйв. **10.10** Авто: вторые руки. Эксклюзив. **10.40** Вторичка. **11.10, 19.45, 23.00, 3.25** Кругосветка по бездорожью. **11.40, 20.20** Авто: вторые руки. **11.55, 20.35, 23.50, 4.05** Трасса А2. **13.00, 0.50** Испытание на прочность. **13.50, 1.55** Народный тест драйв. **15.25, 21.25, 4.50** Тест в большом городе. **15.55** Байки про байки. **18.30** Обновление. **22.00, 5.20** Вечер с Пикуленко. **22.40** Эконом-тест.

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.45, 8.35** Речные чудовища. **9.30** Большой улов. **10.20** Масштабные инженерные ошибки. **11.05** Демонтаж самолетов. **12.00, 12.40, 13.30, 14.15, 15.05, 15.50, 16.35, 17.25, 18.10, 19.00, 19.45, 20.30, 21.20, 22.05, 22.50, 23.40, 1.55, 2.45** Австралийские золотоискатели. **0.25, 1.10** Деревенский дом. **3.30, 4.20** Короли разрушения. **5.15, 5.40** Виртуозы резьбы по дереву.

### HISTORY

**6.15, 7.05, 7.55, 8.45, 9.35** Запретная история. **10.25, 11.25** Микромонстры с Дэвидом Аттенборо. **12.20, 13.10, 14.00, 14.50, 15.40, 16.25** Загадочные убийства: царственные особы. **17.15** Величайшие мистификации в истории. **18.05, 19.05** Машины смерти. **20.00** Древние небеса. **21.00** Восемь дней, которые создали Рим. **21.50, 22.50** Расцвет Помпеи. **23.50, 0.40** Могилы викингов. **1.30, 2.35** История христианства. **3.40, 4.30** Музейные тайны. **5.20** Невероятные изобретения.

### NATURE

**6.05, 10.30** Мир природы: леопарды – неестественная история. **6.55** Возвращение в Чернобыль. **7.50, 11.20** В поисках русского тигра. **8.45** Мир природы: повелитель летучих мышей из Мексики. **9.40** Мир природы – Лобо – волк, который изменил Америку. **12.20, 13.10, 14.05** Тайная жизнь слонов. **15.00, 18.40** Бескрайняя Африка. **15.55, 16.50, 17.45** Львиная страна: ночь и день. **19.30** Как выживают медведи. **20.20** Мир природы – лемур-блюз. **21.15** Суровая Австралия. **22.00, 22.45, 2.40, 5.10** Мутации погоды. **23.35** Природа в кадре. **0.00** Жуткие, настоящие и странные. **0.50** Хищные питомцы. **1.35** Анатомия крупнейших животных. **3.30** Ветеринар из Йоркшира. **4.15** Новорожденные в зоопарке. **4.45** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Широкий взгляд с Кэлом Пенном. **6.15, 6.40, 7.00** Игры разума. **7.45** Враждебная планета: победители холода. **8.35, 9.25, 10.15, 1.05, 1.55** Осушить океан. **11.05, 2.45** В дикой природе с Беаром Гриллсом. **11.50, 12.40, 3.30, 4.25** «Без цензуры» с Майклом Вэйром. **13.30, 14.15, 5.15** Авто-SOS. **15.00, 15.50** Путешествия с Гордоном Рамзи. **16.40, 17.25, 18.10** Паранормальное. **19.00, 22.00, 22.50, 0.20** Космос: возможные миры. **19.45** Поймать контрабандиста. **20.30, 20.55, 21.15, 21.40** Горячие границы: Латинская Америка. **23.35** Тайны мироздания.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.00, 22.05, 2.10** Рыболовная школа для взрослых. **6.30, 10.25, 14.25, 18.30** Охота в Новом Свете. **6.55** Горная охота на тяньшанского архара. **7.25, 15.25, 23.35** Вкусные рецепты охотника. **7.55, 11.55, 15.55, 19.55** Давай зарубимся! **8.10, 12.10, 16.10, 20.10** Охоты и охотники. **8.25, 12.25, 16.25, 20.30** Рыбалка 360. **8.55, 12.55, 1.10, 5.05** Такая жизнь охота с Сергеем Бешенцевым. **9.30, 13.25, 17.30, 1.40, 5.30** Фотоохота с Евгением Полонским. **10.55** Горная охота на колымского снежного барана. **11.25, 19.25, 3.35** Вкусные рецепты рыболова. **14.50** Горная охота на корякского и чукотского снежного барана. **17.00** Охота в Удмуртии. **18.55** Горная охота на охотского снежного барана. **21.00** На рыбалку с охотой. **21.35** Рыбалка в России. **22.35, 2.40** Донка против фидера. **23.05** Горная охота на кантабрийскую серну. **0.05, 4.00** Привет, Малек! **0.40, 4.35** Мир рыболова. **3.10** Горная охота на пиренейскую серну.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.50, 13.55, 18.05, 22.20, 2.20** Легендарные братья-пекари. **6.25, 10.15, 14.25, 18.35, 22.45, 2.50** Дачных дел мастер. **6.55, 14.55, 19.05, 23.20, 3.20** Агротуризм. **7.25, 11.30, 19.35, 23.50, 3.50** Безопасность. **7.55, 12.00, 16.15, 20.05, 0.20, 4.15** Лучки-пучки. **8.15, 12.20, 16.30, 20.20, 0.35, 4.30** Доктор смузи. **8.25, 12.35, 16.45, 20.40, 0.50, 4.45** Занимательная флористика. **8.45, 12.55, 17.05, 20.55, 1.05, 5.00** У мангала. **9.15** Дачные радости. **10.50** Как поживаете? **11.20** Квас. **13.20, 17.30, 21.30, 1.35, 5.30** История одной культуры. **15.25** Готовим на природе. **15.45** Фитоаптека с Мариной Рыкалиной. **22.00** Вершки корешки. **2.05** Особый вкус.

# Пяць год таму на Валожыншчыне знялі шоу пра гарадскіх хлопцаў і дзяўчат у вёсцы

**Пяць год таму на Валожыншчыне знялі рэаліці-шоу. Праграма пад назвай «Панаехалі» выйшла на тэлеканале «Беларусь 2». «Рэгіянальная газета» распавядае, чаму гэта шоу стала адным з самых якасных праектаў беларускага тэлебачання.**




На гэтым хутары прайшлі здымкі тэлепраекта.

### Дзе здымалі

Здымкі шоу занялі ўсяго 16 дзён. Яны прайшлі на Валожыншчыне, непадалёк ад вёскі Гародзькі. Асноўныя здымкі прайшлі ў засценку Скрыплеў. Гаспадаром на хутары, дзе жылі героі, быў **Васіль Грынь**.

– Мне спадабалася, па-першае, назва шоу. На Валожыншчыне аб чужынцах так і кажуць: панаехаўшыя. Па-другое, прыйшоў час нагадаць нашым гарадскім жыхарам аб іх каранях. Большая частка насельніцтва краіны родам з вёскі, але шмат хто проста забыўся пра гэта, – распавядаў Грынь.

### Героі

Галоўных герояў адбіралі на кастынгу. Адным з патрабаванняў было тое, каб удзельнікі былі гарадскімі жыхарамі.

**Удзельнікаў, па словах гаспадара хутара Васіля Грыня, адабралі ну, такіх ужо гарадскіх-гарадскіх, такіх адарваных ад вёскі, што яны абсалютна нічога рабіць не ўмелі.**




Гаспадар хутара Васіль Грынь, родам з Маладзечна.




Алёна коле дровы. У першай серыі ніхто не мог здагадацца, што гэта дзяўчына пераможа ў шоу.

Менавіта таму гэтых гарадскіх дзяўчат і хлопцаў змясцілі ў незвычайныя для іх умовы – у беларускую вёску.

Усяго было 10 удзельнікаў – 5 дзяўчат і 5 хлопцаў.

**Іван** – відэаблогер, які ў свой час займаўся хакеем. Ваня запісваў відэа на вуліцах Мінска, у якіх ставіў у няёмкае становішча мінчукоў. Ён сказаў, што хоча звязаць жыццё з тэлебачаннем.

**Лёля** – прафесійная танцорка. Яна выступае з праграмамі, займаецца танцамі з дзецьмі і любіць фотасесіі.

**Максім** – банкаўскі службоўца. У свабодны ад працы час ён займаецца ёгай і любіць усходнюю культуру.

**Алёна** называе сябе тусоўшчыцай. Дзяўчына вучылася ў мінскім універсітэце, хадзіла па кафэ і рэстаранах.

**Алеся** – спявачка. Дзяўчына нарадзілася ў сям'і багатых бацькоў, таму ніколі і ні ў чым сабе не адмаўляла. Яна піша і спявае свае песні, таксама прадае іх для расійскай эстрады.

**Сяргей** – шоумэн. Сяргей вядзе розныя мерапрыемствы: ад карпаратываў да вяселляў. Ён абраў гэту прафесію за паўгода да праекта. Раней працаваў менеджарам, але яму надакучыла такая праца.

**Каця** – прадстаўніца эма-культуры. Па яе словах, раней яна была звычайным і шэрым чалавекам, але ўбачыла адну рок-групу і змяніла свой стыль. Дзяўчына вучылася ў сталічным універсітэце і вывучала карэйскую мову.

**Ганна** – інтэлектуалка. Дзяўчына заўсёды добра вучылася, скончыла школу з залатым медалём. Яна любіць чытаць. Паводле яе слоў, трэба ў жыцці задаволіць сябе, а потым толькі ўладкоўваць асабістае жыццё.

**Аляксандр** – мадэль. Хлопец займаецца мадэльным бізнесам. Ён працуе прафесійнай фотамадэллю, удзельнічае ў паказах і здымаецца ў кліпах.

**Дзіма** – стрыптызёр. З 21 года працуе артыстам эратычнага шоу. Хлопец таксама працуе фітнес-інструктарам.

### У чым асаблівасці праграмы?

«Панаехалі» нагадвае папулярнае ў 2000-х шоу «Апошні герой». Удзельнікі выконваюць заданні, ім трэба працаваць у камандзе і індывідуальна. Кожны тыдзень, калі выходзіла праграма, аднаго з удзельнікаў выганялі з шоу пры галасаванні.

Адна з асаблівасцяў праграмы «Панаехалі» заключаецца ў тым, што ўдзельнікі да апошняга не ведалі, дзе будуць праходзіць здымкі. Спачатку ім заявілі, што яны адпраўяцца ў экзатычнае месца. Героі думалі, што яны будуць на востраве ў тропіках. Але экзатычным месцам аказалася вёска. Ва ўдзельнікаў забіралі мабільныя тэлефоны і ўсе сродкі сувязі са знешнім светам.

Вядучы рэаліці-шоу **Канстанцін Каверын** дапамагаў удзельнікам асвоіцца ў вясковым жыцці. За кожнае выпрабаванне героі атрымлівалі спецыяльныя купоны, за якія маглі купіць некаторыя рэчы. Напрыклад, душ. Што купіць – вырашалі на сходзе.

На фоне выпрабаванняў і незвычайнай абстаноўкі паміж удзельнікамі развіваліся ўзаемаадносіны: і каханне, і дух спаборніцтва, фарміраваліся асобныя групы. У фінал выйшлі тры ўдзельнікі, а пераможцу абіралі тэлегледачы.

Пераможцай стала Алёна, у якой быў бачны прагрэс на працягу здымак. Менавіта ёй аддалі перамогу гледачы. А дзяўчына выйграла падарожжа на Карыбы, куды адправілася разам з мамай.

### Ці ёсць працяг?

У 2017 годзе «Беларусь 2» пры падтрымцы Міністэрства надзвычайных сітуацый выпусцілі працяг тэлешоу «Панаехалі 2». У новым сезоне праекта дзесяць беларускіх дзяўчат і хлопцаў прымералі ролю выратавальнікаў.

Месцам здымак стаў палігон МНС каля Барысава. Як і ў першай частцы, героям не расказвалі, куды яны едуць. У выніку яны жылі ў палатках, у паходных умовах, а кожны тыдзень адзін з удзельнікаў пакідаў праект.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Вілейка ў пачатку 20 стагоддзя
# А як цяпер выглядаюць гэтыя


Фота з калекцыі Барыса ЦІТОВІЧА.

Вуліца Імператара Аляксандра II пасля вызвалення горада ў верасні 1915 года. Аўтар фатаграфій, мяркуючы па подпісе на адваротным баку, Шлудчанка.

**У артыкуле разгледзім вядомыя фотаздымкі старой Вілейкі. На аснове іх раскажам, як змянілася аблічча горада пасля Першай сусветнай вайны. Нягледзячы на тое, што войны прыносяць разбурэнні, менавіта ў гады вайны зрабілі шмат фотаздымкаў Вілейкі.**

У гады Першай сусветнай Вілейка моцна пацярпела падчас баёў за горад і станцыю, якія адбыліся ад 10 (23) да 13 (26) верасня 1915 года.

16 верасня 1915 года нямецкія войскі ўварваліся ў Вілейку з боку мястэчка Куранец, артылерыяй абстралялі чыгуначную станцыю і разбілі эшалон з рускімі салдатамі, многія з якіх потым ратаваліся ўплаў праз Вілію.

На беразе размяшчаліся дзве рускія артылерыйскія батарэі, іх вораг збіў кулямётамі. Загінула каля 40 воінаў рускай арміі, самі ж батарэі ўдалося пераправіць праз раку. Загінулых артылерыстаў пахавалі мірныя жыхары-яўрэі на беразе Віліі.

**Германская акупацыя Вілейкі працягвалася шэсць дзён. 23 верасня немцаў выбілі з горада. Яшчэ тры дні ішлі баі ў ваколіцах.**

Бой за Вілейку быў першым пераможным наступальным боем рускай арміі пасля цяжкіх працяглых адступленняў. Гэты бой вызначыў далейшы ход вайны: было спыненае прасоўванне немцаў углыб Расіі.

### Фотаздымкі Вілейкі 1915-1918 гадоў

Захаваўся шэраг фотаздымкаў Вілейкі перыяду Першай сусветнай вайны. Многія з іх зрабілі рускія фатографы ў 1915-1917 гадах ці нямецкія ў 1918 годзе.

У прыватнасці, фатаграфіі з разбуранымі відамі Вілейкі ёсць у фотаальбомах або зборах фотаздымкаў.

Фотаальбом медсястры **Вольгі Капцюг**. У ім змяшчаюцца здымкі касцёла ў Вілейцы. Альбом захоўваецца ў прыватным сямейным архіве сваякоў.

Фотаальбом падпаручніка 217-га пяхотнага Каўроўскага палка **Барыса Мігачова**. У ім ёсць некалькі здымкаў, зробленых на тэрыторыі Вілейскага раёна ў 1915-1916 гадах. Арыгіналы здымкаў Мігачова захоўваюцца ў фондах Іванаўскага дзяржаўнага гісторыка-краязнаўчага музея імя Бурыліна.

Фотаальбом афіцэра 4-й батарэі лейб-гвардыі 1-й артылерыйскай брыгады **Платона Аляксеева**. У ім ёсць чатыры фатаграфіі разбуранай Вілейкі, датаваныя 29 верасня 1915 года. Яго фотаальбомы захоўваюцца ў фондах РОСФОТО.

Фатаграфіі Вілейкі ў 1916-1917 гадах ёсць у альбоме невядомага вайскоўца з 22-га карпуснога авіяцыйнага атрада, копіі якіх даў **Марат Хайрулін**.


Фота Настассі УТКІНАЙ.

Так выглядае вуліца цяпер. Месцараспалажэнне прыкладнае.

Тры шырокафарматныя здымкі разбураных будынкаў у горадзе выканаў невядомы вайсковец. Па подпісах на адваротным баку фотаздымкаў аўтара ўстанавіць не атрымалася, як мяркуецца, яго прозвішча Шлудчанка. Фотаздымкі гэтыя былі падораныя **Барысу Цітовічу**, які даў электронныя копіі.

Фатаграфіі нямецкіх салдат, зробленыя падчас акупацыі горада ў 1918 годзе. Устанавіць аўтараў гэтых здымкаў, хутчэй за ўсё, нельга. Многія паштоўкі беларускіх месцаў прадаваліся ў немцам у палкавых крамках і сустракаюцца ў фотаальбомах у розных салдат і афіцэраў, якія ваявалі тут. Такія фатаграфіі ёсць у калекцыях **Уладзіміра Багданава** і **Уладзіміра Ліхадзедава**. Часам яны прадаюцца на розных інтэрнэт-аўкцыёнах.

У Цэнтральным дзяржаўным архіве кінафотафонадакументаў Санкт-Пецярбурга ёсць некалькі падборак фотаздымкаў Вілейкі падчас Першай сусветнай.

Фотаздымкі з відамі горада мясцовага фатографа **Беркі Бермана**, якія датуюцца 1918 годам. Хутчэй за ўсё, гэтыя фатаграфіі з відамі горада рабіліся на продаж нямецкім салдатам. Некалькі яго падобных фотаздымкаў захоўваюцца ў фондах Вілейскага краязнаўчага музея.

### Вуліца Аляксандраўская

Вуліца Аляксандраўская, ці імя Імператара Аляксандра II, так яна афіцыйна называлася, была цэнтральнай у горадзе. Цяпер яна называецца вуліцай Савецкай.

**На здымках відаць, што цагляныя будынкі па гэтай вуліцы выгаралі і засталіся толькі сцены. Некаторыя фатаграфіі рабілі на скрыжаванні вуліцы Аляксандраўскай і Пагулянкі (цяпер Дзяржынскага).**

### Вуліца Пушкінская

Захавалася некалькі нямецкіх фотаздымкаў вуліцы Пушкінскай.

**Цяпер гэта вуліца 17 Верасня. Першая назва вуліцы – Асіпавіцкая, як кірунак на вёску Асіпавічы Вілейскага павета.**

У 1899 годзе вуліцу перайменавалі ў Пушкінскую ў гонар 100-годдзя з дня нараджэння рускага паэта Аляксандра Пушкіна.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА па матэрыялах Андрэя КАРКОТКІ, сайт культурна-гістарычнага фонду памяці Першай сусветнай вайны «Крокі».**

*Працяг будзе.*

# на фотаздымках. вуліцы і будынкі?




Так вуліца Імператара Аляксандра II выглядала да вайны, будынак на заднім плане – Казначэйства. Фотапаштоўка 1905 года.




Сучасны выгляд вуліцы, гэта прыкладнае месцараспалажэнне. З-за адсутнасці будынкаў таго часу ўстанавіць дакладнае месцараспалажэнне цяжка.




Фотаздымак вуліц Імператара Аляксандра II і Пагулянкі пасля вызвалення горада. 29 верасня 1915 года.




Так выглядае вуліца Пагулянка (сёння Дзяржынскага) у 2020 годзе.




Вуліца Пушкінская: від на рыначную плошчу, касцёл і Свята-Марыінскую царкву. Фота невядомага нямецкага салдата. Люты-сакавік 1918 г.




Сучасны выгляд плошчы, касцёла і царквы.

# Пра гісторыю мясцін ля Войстама

*Заканчэнне. Пачатак у №19.*

**Капліца з паўночнага боку была разбураная снарадам, там яшчэ бачныя сляды падмурка. Вёска згарэла ўшчэнт, засталіся толькі хаты на хутарах.**



Паўночную каплічку ў Сяльцы адстойвалі мясцовыя жыхары, а пасля абараніў і райвыканкам.

Праз гадоў пяцьшэсць вярнуліся людзі з бежанства і засталі тут папялішчы. Бур'яном зараслі не толькі двары, але і вуліца. Пачалі пазнаваць свае двары па адлегласці ад капліччкі і па закіданых калодзежах. Кожны вызначыў свой пляц, і пачалі будаваць зямлянкі. Дрэва бралі з ваенных умацаванняў.

## Адстаялі капліччку

Некаторыя жылі ў зямлянках па пяцьшэсць гадоў. Паўночную капліччку не адбудоўвалі, бо вёска цягнулася ў даўжыню, людзі сяліліся з хутароў. З паўночнага боку вёскі капліччку пабудавалі ў 1990-х гадах. Яна значна большая, мае дзверы, можна зайсці двум-тром чалавекам. Калі праводзіцца вясковы малебен з ксяндзом, тут святар можа пераапрануцца. Капліччку абсадзілі елкамі, тут спыняецца пахавальная працэсія, калі праводзяць у апошні шлях памерлага, пакідаюць вянок.

Паўднёвую капліччку хацелі знішчыць улады. У 1960-я гады нават прыбыла тэхніка, каб зрабіць сваю разбуральную справу. Але вернікі сталі сцяной, не дазволілі, а потым неяк усё заціхла.

Ад Сяльца да Вострава была глiністая дарога, каб трапіць да шашы, прайсці можна было толькі ў гумовых ботах нават летам. Зрабілі дарогу ў 1981 годзе, запланавалі пусціць аўтобус. Ізноў прапанавалі сельсавету знесці капліччку, бо стаіць пасярэдзіне дарогі. Але па волі лёсу, дзякуючы райвыканкаму, капліччка ўцалела. І аўтобусу ніколі не замінае. Нават праз некалькі гадоў прызналі, што гэта гістарычная памяць.

## Асушылі балота

Праз паўкіламетра цячэ за вёскай Сялец, абрамляе вёску Замасце рэчачка Зуста, яна згадваецца ў кнізе «Памяць» Смаргонскага раёна. Там напісана, што даўжыня Зусты 15 кіламетраў, за Войстамам упадае ў раку Спягліца, а Спягліцу прымае рака Вілія. У кнізе напісана, што Зуста бярэ пачатак з безыменнага возера. Гэта возера мясцовыя жыхары называюць Мохавае. Возера размешчанае на балоце, якое называюць проста Мох. Тут шмат мясцін, дзе рос мох, які людзі выкарыстоўвалі пры будоўлях дамоў, хляваў, клалі паміж бярвёнамі. Ля Мохавага возера раслі брусніцы, а па ўсім балоце – кустоўе буякоў. Людзі збіралі іх кошыкамі і здавалі дзяржаве.

Потым балота асушылі. Шмат навыварочвалі карчоў, капаючы канавы. Праз пару гадоў яно загарэлася і з паўгода абдавала дымам наваколле. Але агульнымі намаганнямі, дзякуючы пажарным, патушылі. Цяпер тут пустэча, ніякіх буякоў няма.

За ракой Зустай, праз якіх метраў 300, паварот направа, на Войстам. Тут стаяць разваліны будынка, зробленага з вялікіх камянёў.

**Яшчэ ў 70-я гады будынак стаяў, на сцяне зверху ля страхі было напісана 1903 год. На дзвярах вісеў вялізны замок, тут складалі калгасныя мінеральныя ўгнаенні.**

Потым некаму спатрэбіўся шыфер. Будынак раскрылі, замок знялі. Мясцовыя ўсё расцягнулі, што было драўлянае: дзверы, вокны, кроквы, сцены сталі абвальвацца.

Побач з гэтай Мураванкай ёсць фундамент дома. Казалі, там быў граф, які разводзіў розныя гатункі бульбы. У нашага аднавяскоўца **Эдмунда Андрыца** дзед быў даверанай асобай графа па яе вырошчванні. А бульбу ў нас называюць «картофля», «картопля», то гэтага дзеда і празвалі Картаплянік. А цяпер мянушку і яго сын носіць. Казалі, што ў гэтым яшчэ графскім доме і ў яшчэ адным памяшканні месцілася Замосцеўская школа.

У 1960-я гады па ініцыятыве **Уладзіміра Рубана** ў Сяльцы пабудавалі двухпавярховую школу. Уладзімір Іванавіч быў дырэктарам Войстамскай школы, затым загадчыкам райаддзела адукацыі, ад 1976 да 1988 – загадчык аддзела народнай адукацыі вобласці. Школа была двухпавярховая, былі дапаможныя памяшканні – кацельня са складам для паліва, воданапорная вежа, дом для настаўнікаў на чатыры кватэры. Школа хоць была ў Сяльцы, пакінулі назву Замосцеўская, бо ў раёне была Сялецкая школа.

## Неперспектыўная вёска

У 1970-х гадах вёску аднеслі да неперспектыўных, а гэта азначала прыгавор, хаця ў вёсцы было 35 двароў, васьмігодка, магазін, ферма буйной рагатай жывёлы. У школе ў 1977 – 1978 навучальным годзе было 96 вучняў. З кожным годам іх станавілася ўсё менш і менш. Хадзілі ў школу акрамя Сяльца дзеці з навакольных вёсак: Лазоўка, Замасце, Вострава, Куляшы. А ў 1990 годзе школу закрылі, бо заставалася ўсяго 37 вучняў. Памяшканне школы яшчэ некаторы час прыстасоўвалі, быў вартаўнік. У памяшканні зрабілі рамонт з гіпсавымі налепкамі. Была, як турбаза, піянерскія летнікі летам. Зімой здавалі на розныя справы: вяселлі, сямейныя святы.

Неўзабаве прыехалі краны, знялі жалезабетонныя перакрыцці і павезлі ў бок Смаргоні. А школу закапалі. Тут цяпер гладка, пуста, засталіся ліпы і каштаны, дзе-нідзе вылазяць кусцікі былой жывой агароджы.

## Лазоўка

Едзем далей. Ад Сяльца да Войстама шэсць кіламетраў, за паваротам налева размясцілася вёска Лазоўка. Да 1964 года яна называлася Ушыўцы, нават прозвішча такое тут было, але ўжо звялося. Назва Лазоўка хутка прыжылася. Направа закінуты магільнік. Гэта такі ўзгорачак з купкай бярозак, тут таксама была капліччка. Цяпер вернікі склаліся і ўсталявалі крыж, выяву Маці Божай. Тут не расце бур'ян, а сухацвет, шчаўе. Мясцовыя кажуць, капліччка апусцілася пад зямлю. І калі прыкладзеш вуха да зямлі, то чуваць звон. А пад'язджаючы пад Войстам, было гарадзішча, пра яго нават упамінаецца ў гістарычных крыніцах.

## Кожны лапічак мае назву

Хачу вярнуцца ў Сялец і крыху сказаць пра назвы прылеглых мясцін. Кожны лапічак зямлі мае сваю назву. І назвы даволі трапныя, характарызуюць мясцовасць. На поўнач Грэбля, на паўночным захадзе Забрады, на захадзе Мохавае балота, а ля вёскі поле, якое цягнецца на паўднёвы захад – Загор'е, бо тут і праўда ўзгоркі. На поўдні Смыкава – тут сутыкаюцца палі вёскі Сялец і Вострава. На ўсходзе раскінуўся вялікі луг з прыгожай назвай Маслаўшчына. Маслаўшчына цягнецца аж да Зусты. За Зустай да графскага маёнтка Папіха. Казалі, тут быў сенакос святара, які быў настаяцелем праваслаўнай царквы, тут жа далей Бабішча.

Гэта месца, дзе былі хутары, жылі бабулькі, і дзятва з вёскі часта хадзіла сюды. Цяпер у вёсцы шэсць жылых дамоў, дзе жывуць карэнныя жыхары. Але хаты тут не пустуюць, горад блізка. Многія дамы пакупплялі на лецішчы, а некаторымі дамамі апякуюцца дзеці, дзе жылі іх бацькі. Дамы пераважна добраўпарадкаваныя, на падворках разбітыя клумбы. Падаставалі з гарышчаў рознае начынне, хто што мог: калаўроты, ткацкія прылады, збаны, зрабілі драўляных буслоў. А вось назвы прылеглых мясцін забыліся, а многія і не ведалі, бо нашто яны ім. Ёсць назва вёскі, нумар дома, весь табе і газ падвязуць, чаго яшчэ трэба.

Як жа захаваць гэтыя назвы, гісторыю? Напэўна, гэта задача гадоў малой радзімы – даць старт аднаўленню летапісу, каб наша гісторыя не сышла ў нябыт. Калі недзе будзе запісана, то і захаваецца, бо людзі сыходзяць, хутка і спытацца не будзе ў каго. Трэба зберагчы памяць роднага краю, малой радзімы.

**Яўгенія КУЛЕВІЧ,**
**в. Сялец**
**Смаргонскага раёна.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

*Калі вы ведаеце гісторыю сваёй мясцовасці, падзяліцеся з намі. Пішыце на пошту regionnews@rh.by.*


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

У Вілейцы на мітынгу было каля 30 чалавек.



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Ускладанне кветак у Маладзечне прайшло ў парку Перамогі.


Фота Настассі УТКІНАЙ.

У Маладзечне да мемарыяла падыходзілі і ветэраны.


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Вянок — ад Вілейскага РАУС і ваенкамата.

# У рэгіёне адзначылі 9 Мая невялікімі мітынгамі

**Сёлета ў Беларусі адзначылі 75-годдзе перамогі над нацысцкай Германіяй у Другой сусветнай вайне. Праз пандэмію COVID-19 у рэгіёне прайшлі невялікія мітынгі з дэлегацыямі ад райвыканкамаў, якія ўсклалі кветкі і вянкі да мемарыяльных комплексаў і помнікаў.**

### Маладзечна

9 мая ў Маладзечне ў парку Перамогі ўсклалі кветкі і вянкі да мемарыяла ў гонар вызваліцеляў горада ад нямецкіх захопнікаў.

Вянкі і кветкі да помніка неслі прадстаўнікі райвыканкама, сілавых структур раёна. На мерапрыемстве прысутнічалі дэпутат Маладзечанскага раённага Савета дэпутатаў **Каліна Капуцкая**, начальнік Маладзечанскага ГРАНС **Дзяніс Ушацкі**, афіцэры з 14-га асобнага палка ўрадавай сувязі КГБ і іншыя.

### Вілейка

У Вілейцы ўсклалі кветкі да помнікаў вызваліцелям горада і Азі Асланаву. Было каля 30 чалавек.

– Сёння на мітынг мы не збіралі людзей спецыяльна. Усе, хто тут, прыйшлі добраахвотна. Таму вялікі дзякуй усім, хто змог, – сказаў у сваім выступленні ля помніка вызваліцелям старшыня Вілейскага райвыканкама **Алег Бегунец**. – Спадзяюся, да 3 ліпеня эпідэміялагічная абстаноўка стане лепшай і мы зможам адзначыць свята больш маштабна.

Старшыня адзначыў важнасць Дня Перамогі для ўсіх беларусаў. Памяць загінулых ушанавалі хвілінай маўчання. Уганараваць земляка военачальніка Азі Асланава прыехалі азербайджанцы, што жывуць у Беларусі. 2 ліпеня 1944 года 35-я гвардзейская танкавая брыгада пад кіраўніцтвам Асланава вызваліла Вілейку. Некалькі год таму ў горадзе яму ўстанавілі помнік.

### Ашмяны

У Ашмянах святочнае мерапрыемства прайшло ў гарадскім парку ля брацкай магілы. Там зрабілі тэатралізаваную пастаноўку, правялі хвіліну маўчання.

– У нашай краіне ёсць шмат розных свят. Мы ўсведамляем іх значнасць, паважаем і шануем. Але Дзень Перамогі, які сабраў нас сёння, мы вылучаем з усіх таму, што не было ў гісторыі чалавецтва больш лёсавызначальнай і трагічнай падзеі, чым Другая сусветная вайна. І можна без усялякага перабольшання сказаць, што яе зыход вырашаўся менавіта ў тыя чатыры гады, якія мы называем Вялікай Айчыннай вайной, – прыводзіць словы старшыні райвыканкама **Уладзіслава Гершгорына** «Ашмянскі веснік».

### Смаргонь

У Смаргоні каля помніка загінулым воінам і партызанам таксама прайшоў урачысты мітынг і ўскладанне кветак.

Са святам смаргонцаў павіншаваў старшыня райвыканкама **Генадзь Харужык**. Як перадае «Светлы шлях», старшыня адзначыў, што 9 мая 1945 года для ўсіх – дата асаблівай гістарычнай важнасці. У ёй непадзельна пераплецены ўрачыстасць і смутак, радасць і слёзы. Харужык сказаў, што ваеннае ліхалецце кранула чорным крылом кожную беларускую сям'ю, але нішто не змагло зламаць свабодалюбівы дух беларускай нацыі.

### Астравец

У Астраўцы Дзень Перамогі адзначылі каля помніка загінулым салдатам. «Астравецкая праўда» адзначыла, што святочнае мерапрыемства не было шматлюдным, каля помніка было каля дзясятка астраўчан акрамя дэлегацыі райвыканкама і грамадскіх аб'яднанняў.

– Кожны год ля помніка савецкім воінам і партызанам мы збіраемся, каб успомніць герояў Вялікай Айчыннай вайны, і гэты май не стаў выключэннем, – сказаў старшыня райвыканкама **Ігар Шалудзін**. – 9 Мая не проста дзяржаўнае свята, гэты дзень важны для кожнага беларуса, таму што няма сярод нас сям'і, якую не закранула б вайна. Гэты дзень для нас – сімвал нацыянальнага гонару і памяці. Ён – у сэрцы кожнага, хто разумее цану міру, хто вышэй за ўсё ставіць гонар і свабоду сваёй Айчыны.

### Мядзел

У Мядзеле мітынг адбыўся каля брацкай магілы. Удзел у ім прынялі прадстаўнікі райвыканкама, ветэранскіх арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў. Таксама прысутнічалі жыхары горада. «Нарачанская зара» адзначае, што з-за неспрыяльнай эпідэміялагічнай абстаноўкі мітынг быў нешматлюдны. На ім выступілі старшыня райвыканкама **Анатоль Вайнілка**, ветэран **Міхаіл Гардон**.

### Валожын

У Валожыне ветэранаў віншаваў старшыня райвыканкама **Яўген Круковіч**. Старшыня адзначыў, што 9 Мая – гэта сімвал нацыянальнага гонару, воінскай славы і доблесці народа.

**Настасся УТКІНА,**
**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Дынамаўцаў судзяць з нагоды дамоўнага матча супраць «Магілёва»

**У Мінску праходзяць судовыя слуханні па справе аб дамоўным матчы, да якога датычныя хакеісты маладзечанскага «Дынама».**

Нагадаем, 12 лістапада 2019 года маладзечанскія хакеісты прайгралі аўтсайдару чэмпіянату 5:6, да сярэдзіны матча дынамаўцы вялі з лікам 5:1. Як высветлілася, гульцы «Дынама» згулялі дамоўны матч.




Фота Андрэя РАГІНСКАГА.

Па справе дамоўнага матча ўжо прайшлі два пасяджэнні.

## Першае слуханне: дамоўны матч і распаўсюджванне парнаграфічных матэрыялаў

У сераду, 29 красавіка, у судзе Маскоўскага раёна Мінска прайшло першае пасяджэнне па справе аб дагаворным матчы паміж «Дынама» і «Магілёвам».

Справу хакеістаў не перанеслі з-за каранавіруса, як суды па дамоўных матчах у беларускім футболе. На лаве падсудных знаходзяцца чацвёра хакеістаў: **Сяргей Шэлег, Аляксандр Сырэй, Аляксей Іваноў і Мікіта Усціненка**.

У ходзе прадстаўлення абвінавачаных высветлілася, што ў Сырэя ўжо былі праблемы з законам. Сем гадоў таму гульца злавілі п’яным за рулём. Астатнія фігуранты хакейнага дамоўнага матча не мелі праблем з законам.

Пракурор **Валерыя Сергіенка** распавяла, што ўсе чацвёра – Шэлег, Сырэй, Іваноў і Усціненка – акрамя ўдзелу ў дамоўным матчы абвінавачваюцца і ў распаўсюджванні матэрыялаў парнаграфічнага характару. Хакеісты адпраўлялі ў інтэрнэт-чатах з некалькімі дзясяткамі чалавек парнаграфічныя ролікі.

У ходзе расследавання па дамоўным матчы высветлілася, што Шэлег, Іваноў і Лісічкін пагадзіліся прайграць «Магілёву» і ўцягнулі ў «справу» Сырэя, **Станіслава Кучкіна** і **Паўла Баерчука**. Пазней з падачы Сырэя да шасцёркі дадаўся і Усціненка. За гэта ім абяцалі на ўсіх ад 7 да 15 тысяч долараў.

У дачыненні да Лісічкіна, Баерчука і Кучкіна раней вынеслі пастанову аб спыненні крымінальнага пераследу ў сувязі з дзейным раскаяннем.

Пасля абвяшчэння абвінавачання пракурорам хакеісты прызналі сваю віну ў поўным аб’ёме і раскаяліся.

## Другое слуханне: Сырэй і Шэлег распавядаюць пра матч

7 мая ў судзе Маскоўскага раёна ў Мінску адбылося другое судовае слуханне па справе аб дагаворным матчы «Дынама-Маладзечна» – «Магілёў».

7 мая да трыбуны выходзілі толькі двое хакеістаў – Сырэй і Шэлег. Пракурор Валерыя Сергіенка распытвала спартсменаў, як даўно яны займаюцца хакеем, як адносяцца адзін да аднаго.

– Да мяне падышлі Слава Лісічкін і Сяргей Шэлег дні за тры да гульні. Гэта было ў распранальні. Яны сказалі, што можа быць такая гульня, за якую можна атрымаць узнагароду. Гульня з «Магілёвам». За што ўзнагароджанне? За пройгрыш. Ніякіх падрабязнасцяў не абгаворвалі, – распавёў Сырэй.

Сырэй сказаў, што пагадзіўся на прапанову таму, што клуб не выконваў абавязкі па выплаце заробкаў. Далей Сырэй патэлефанаваў свайму сябру, таксама хакеісту, Гаўрылаву ў Расію. Ён сказаў яму, што на адным матчы можна зарабіць, Гаўрылаў паабяцаў за паражэнне «Маладзечна» 500 тысяч расійскіх рублёў.

Па словах Сырэя, пра гэта ведалі Кучкін, Баярчук, Усціненка, Шэлег і Іваноў. Яны абмяркоўвалі дамоўны матч праз групу ў «Тэлеграме».

– Потым пачалася гульня, 12 лістапада. Ніхто загадзя ніякіх дзеянняў не абмяркоўваў, проста павінны былі прайграць. Але пасля першага перыяду мы выйгравалі 3:1, нармальна гулялі. Потым выйгралі 5:1. І тут для пройгрышу нічога не рабілі.

Сырэй распавёў, што пасля другога перыяду яшчэ адзін хакеіст, **Малевіч**, з якім кантактаваў Гаўрылаў, напісаў яму і спытаў, чаму «Маладзечна» выйграе. Сырэй паказаў гэта паведамленне Лісічкіну.

У трэцім перыядзе дынамаўцы пачалі прайграваць, а матч завяршыўся з лікам 5:6. Грошы маладзечанскія хакеісты павінны былі атрымаць ад Гаўрылава і Малевіча. Яны прывезлі іх праз некалькі дзён пасля гульні з Масквы. Размова ішла пра суму больш за 15 тысяч долараў (амаль 38 тысяч беларускіх рублёў).

Пасля таго як скончыўся матч, у распранальні форвард «Дынама-Маладзечна» **Павел Пячура** выказаў прэтэнзіі наконт гульні. На наступны дзень на сходзе кіраўніцтва сказала, што камандай занялiся праваахоўныя органы. Праз два-тры дні хакеістаў забралі праваахоўныя органы.

Хакеісты вырашылі не хаваць тое, што яны ўдзельнічалі ў дамоўнай гульні, а грошы за матч з «Магілёвам» яны не ўзялі.

Сырэй таксама распавёў пра факт распаўсюджвання матэрыялаў парнаграфічнага характару. Па яго словах, 24 жніўня 2019 года ён адпраўляў такія ролікі.

– Хачу сказаць, што зрабіў гэта, бо не ведаў заканадаўства Рэспублікі Беларусь. Не ведаў, што гэта караецца. Адправіў са свайго тэлефона ў клубную групу ў «Вайберы». У гэту групу ўваходзіла ўся каманда «Дынама-Маладзечна». З якой мэтай адпраўляў? Проста, напэўна, як прыкол нейкі. Цяпер ужо разумею, што гэта распаўсюджванне парнаграфіі. Да зробленага стаўлюся дрэнна, цяпер ведаю заканадаўства Беларусі. Раскайваюся.

Пасля гэтага пасяджэнне перайшло да допыту другога абвінавачанага – Сяргея Шэлега.

Ён напісаў свае паказанні загадзя, таму чытаў іх з паперы. Прызнаў віну па абвінавачанні цалкам. Пра распаўсюджванне парнаграфічных матэрыялаў сказаў, што не памятае дакладна, які відэаролік адпраўляў, але прызнае, што ролік быў адпраўлены з тэлефона, якім карыстаўся гулец. Шэлег патлумачыў, што не ведаў на той момант, што робіць злачынства.

Па дамоўным матчы таксама прызнаў віну. Па словах Шэлега, пра тое, што «нейкія людзі прапануюць грошы за здачу матча», ён даведаўся ад варатара **Аляксея Іванова**. Толькі пасля гэтага ў змову былі ўцягнутыя іншыя ўдзельнікі, цяпер абвінавачаныя.

– Для больш верагоднага наступлення патрэбнага зыходу я, Сырэй і Лісічкін, вырашылі пасвяціць у справу гульцоў, без якіх нам было б цяжка дамагчыся паражэння каманды. Лісічкін размаўляў з **Феакціставым**, Сырэй – з **Волкавым**, я – з **Амбражэйчыкам**. На маю прапанову Амбражэйчык адказаў, што калі ўсе так вырашылі, то супраць каманды ён не пойдзе, – распавёў Шэлег.

У ходзе судовага пасяджэння Шэлег распавёў цікавую дэталь. Пра тое, што матч з «Магілёвам» будзе насіць дамоўны характар, ведаў і яго аднаклубнік Арцём Волкаў, але ад прапановы паўдзельнічаць у змове ён адмовіўся. У цэлым жа паказанні Шэлега паўтаралі словы, сказаныя раней Сырэем: сорамна, раскайваюся, зарплату не плацілі, патрэбныя былі грошы, ніхто ні на каго ціску не аказваў.

Распавёў Шэлег і пра тое, што ад хакея адхілены на год і цяпер з’яўляецца беспрацоўным. Пры гэтым, як удалося даведацца падчас дыялогу гульца з адвакатамі, на ўтрыманні ў Шэлега знаходзяцца двое дзяцей – чатырох і пяці гадоў, а жонка нідзе не працуе.

13 мая прайшло слуханне Усціненкі і Іванова. Пра трэцяе пасяджэнне мы раскажам у наступным нумары «РГ».

**Настасся УТКІНА на матэрыялах by.tribuna.com.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Сродак са смалы, якім націраюць смычкі для лепшага счаплення воласа са струнамі.
4. Кандытарскі выраб, які атрымліваецца шляхам перапрацоўкі зярнят какавы з цукрам.
5. Прылада, рэч для нападу ці абароны.
6. Яны сустракаюцца ў Заходняй Еўропе, Азіі, Паўночнай Амерыцы, у асноўным у прыморскіх абласцях. Дзеляцца на менгіры, дальмены і крамлехі.
7. Галаўны ўбор, звычайна цёплы і мяккі.
9. Паварот самалёта, карабля з крэнам або паварот па крывой аўтамашыны, веласіпеда.
11. Злачыннае пазбаўленне жыцця.
14. Які выклікае захапленне.
15. Чэрава, жывот.
16. Краіна, на тэрыторыі якой жыве народ тутсі. 7 красавіка – Міжнародны дзень памяці аб генацыдзе тутсі.
17. Ламаная лінія.
18. Пасудзіна цыліндрычнай формы, без ручкі, прызначаная для піцця.
22. Спевы.
24. Прынятае абазначэнне ступені ведаў і паводзін вучняў.
26. Уверсе мангольскай юрты знаходзілася акно, якое выконвала функцыю дымахода і прапускала святло. Назавіце прадмет, чыю функцыю яно таксама выконвала.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Змена, пераўтварэнне, перабудова.
3. Звярок роду млекакормячых атраду грызуноў, які жыве ў дуплах дрэў.
8. Работнік сталовай, рэстарана, які падае стравы.
10. Які прадмет знаходзіцца на чырвоным полі герба Ашмянаў?
12. Запасы, крыніцы.
13. Упрыгожанне, звычайна ў выглядзе кольца, якое прымацоўваецца да мочкі вуха.
19. Тэкст твора, напісаны рукой аўтара; аўтарскі рукапіс.
20. Наказ не рабіць чаго-небудзь.
21. Прадмет мэблі ў выглядзе высокай стаячай скрынкі з дзверцамі, які служыць для захоўвання.
23. Лагічны довад, які служыць асновай для доказу.
24. Платон заснаваў у Афінах школу, якую назваў па імю легендарнага героя. Назву выкарыстоўваюць і сёння.
25. Жаданне задаволіць свае патрэбы, імкненні, схільнасці, захапленні.
27. Штогод тут праводзяць дзень памяці 6 жніўня ў 8 гадзін 15 хвілін. Абавязковая хвіліна маўчання пад гукі набата.
28. Максім Танк: «Люблю твае, …, затокі і тоні, як вецер густыя туманы развесіць, ці пена срабрыста на хвалях зазвоніць, цалуючы зоры, калышучы месяц».

## Адказы на крыжаванку з №19

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 3. Глыток. 4. Язык. 5. Арбітраж. 7. Лавец. 9. Ягада. 11. Гавець. 16. Рамадан. 17. Газон. 18. Рызыка. 20. Ампула. 21. Гадзюка. 24. Генерал. 26. Лекцыя. 27. Анёл.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Ноздра. 2. Ягня. 6. Лікёр. 8. Барацьба. 10. Лацкан. 12. Жэле. 13. Норма. 14. Насып. 15. Ажына. 19. Разьба. 22. Нуга. 23. Лаянка. 25. Асвета. 28. Ныццё.

● ГАРАСКОП НА 15-21 МАЯ

## Хто ваша ідэальная пара?

**АВЕН.** Для вас ідэальная пара – Шалі. Менавіта яны могуць не толькі аддзяляць вас ад вашай агрэсіі, але і супакойваць. У пары з Вадалеямі ў вас атрымаецца саюз людзей, якія з задавальненнем перадольваюць сотні прыгодаў.

**ЦЯЛЕЦ.** Самая моцная сувязь у вас узнікае з Ракамі. У такім саюзе партнёры разумеюць і прымаюць адзін аднаго, хутка вырашаюць канфлікты. Кранальна назіраць, як у такой пары абое ўдзячныя партнёру і гатовыя ва ўсім падтрымліваць.

**БЛІЗНЯТЫ.** Разам з Вадалеямі ў вас атрымаецца неверагодны і імклівы раман. Ажаніцца вы можаце праз некалькі тыдняў пасля знаёмства. Адзін з адным вы можаце раскрыць і ўвасобіць самыя патаемныя мары.

**РАК.** Самая касмічная сувязь у Ракаў узнікае з Рыбамі. Менавіта ў гэтай пары Ракаў заўсёды будуць разумець, падтрымліваць і берагчы пачуцці. Жыццё ў такім саюзе будзе адпавядаць запытам абаіх у эстэтыцы і духоўнасці.

**ЛЕЎ.** Самая жарсная сувязь узнікне са Стральцамі. Абодва адчуваюць свет падобна і ўмеюць атрымліваць ад яго асалоду. У такім саюзе кожны дапамагае партнёру дасягнуць мэты і ўвасобіць мары.

**ДЗЕВА.** Складана не захапіцца Цяльцом, які настолькі падобны да вас. Адносіны будуць заснаваныя на сяброўстве і разуменні адзін аднаго. Цялец дапаможа слушна расстаўляць прыярытэты і натхняць на самыя амбіцыйныя задумы.

**ШАЛІ.** Сувязь з Блізнятамі – прыклад інтэлектуальнага партнёрства. Адносіны, у якіх шмат драйву і гульняў розуму. Усё гэта моцна захоплівае абаіх і дапамагае стварыць непараўнальны саюз, у якім фундаментам стане поўны давер.

**СКАРПІЁН.** Той выпадак, калі запал абаіх гарачы, але не апаляе. Саюз з Ракам для Скарпіёнаў ідэальны. Ад партнёра яны бяруць больш, чым аддаюць, але гэта той выпадак, калі двое разумеюць адно аднаго без слоў.

**СТРАЛЕЦ.** Авен і вы – выбуховая пара, у якой абое знойдуць тое, што патрэбна найбольш. Разам вы лёгка пройдзеце праз усе выпрабаванні, якія падрыхтуе лёс. Той прыклад, калі невырашальных праблем няма, калі побач надзейны партнёр.

**КАЗЯРОГ.** Калі з вамі Цялец, іскры сыплюцца ва ўсе бакі. Вы па-сапраўднаму захапляецеся адно адным, і іншых гэта нават крыху раздражняе. Такое адчуванне, што вы знайшлі скарб. А так яно і ёсць.

**ВАДАЛЕЙ.** Калі вы сустракаеце сваё Шалі, з першых хвілін зразумееце, што гэта яно. Іншым складана зразумець вашы ўзаемаадносіны, але самае галоўнае, што ў гэтым віры вы абсалютна шчаслівыя.

**РЫБЫ.** Вы інтуітыўна цягнецеся да Скарпіёна. Калі здараецца разрад, нібы ў фільме, калі ад першага позірку працінае наскрозь – гэта пра вас. А галоўнае, што жылі доўга і шчасліва – дакладна пра вас.

**Эмілія ХВОЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 9 | 8 | | | 5 | | 3 | | |
| | 6 | 7 | 9 | | | | 1 | |
| 5 | 1 | 3 | | 8 | | | | |
| 8 | 3 | | 6 | | | | | |
| 7 | 4 | 6 | | | | 8 | | |
| 2 | | 1 | 3 | | | 4 | | |
| | | 4 | | | 9 | | | |
| | 7 | | | 2 | | | | |
| | | | | 1 | | 2 | 5 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

**Падпішыся на «РГ» у Instagram!** RG_RHBY


• #РГ25

## Аляксандр Тамковіч, журналіст:
# «Тое, што піша «РГ», не толькі чытаюць, але і слухаюць»

**28 красавіка «Рэгіянальная газета» адзначыла 25-годдзе. Прымаем віншаванні і цёплыя словы ад нашага сябра і чытача, журналіста Аляксандра Тамковіча, які сёння жыве ў Мінску, а нарадзіўся ў Ашмянах.**

– Радасна, што ў маіх родных мясцінах людзі і іх начальнікі ўжо чвэрць стагоддзя могуць мець не толькі афіцыйную інфармацыю. Як вядома, свабода слова немагчыма без свабоды слыху. Тое, што піша «Рэгіянальная газета», людзі не толькі чытаюць, але і слухаюць. Бо добра ведаюць, вы пішаце тое, што думаеце, і думаеце тое, што пішаце. Віншую і ганаруся знаёмствам!

***

**Калі вам ёсць што сказаць пра «Рэгіянальную газету», тэлефануйце ў рэдакцыю (8-0176) 53-78-06, пішыце на e-mail regionnews@rh.by або на адрас: 222310, г.Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518, Мінская вобласць, Беларусь.**

**А таксама пасціце ў сацсетках з хэштэгам #РГ25!**


Фота Вольгі ХВОІН.

## Чытайце праз тыдзень:

- У Смаргонскім раёне 600 чалавек пасля 60 год навучыліся базаваму маніторынгу самаадчування на курсах «Разам да здароўя». Чаму яны навучыліся і якія парады могуць даць чытачам «РГ», чытайце праз тыдзень.

## 16 мая, субота

**Вецер:** заходні, 7-8 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература -2°C у 2006 годзе
Максімальная тэмпература +27,3°C у 1983 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 29,6 мм у 2003 годзе

Паводле meteoinfo.by.

# Падпіска на 2-е паўгоддзе стартавала!

**Самы лепшы спосаб у час пандэміі атрымліваць мясцовыя навіны і іншыя публікацыі аб жыцці навокал на паперы – падпісацца.**

**Вам не трэба выходзіць з дому, каб кожную пятніцу атрымліваць у сваю скрыню «Рэгіянальную газету».**

### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета».

✓ **на пошце**

✓ **праз паштальёна**

✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 96 капеек,
- на квартал – 14 рублёў 88 капеек,
- на паўгоддзе – 29 рублёў 76 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 16 рублёў,
- на квартал – 48 рублёў,
- на паўгоддзе – 96 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

• ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Ці вырошчваеце вы гародніну або садавіну?



**Ірына Мержва, спецыяліст у Вілейскай ЖКГ, Вілейка:**
– Так, у мяне свой агарод, займаюся ім ужо год пяць. Вырошчваю шмат чаго.



**Надзея Каралевіч, начальнік аддзела кадраў, Маладзечна:**
– Не вырошчваю, і агарода няма. У вёсцы займацца можна. Сэнсу няма, навошта? Працы шмат, а які вынік?



**Аляксей Лехнер, спявак, Вілейка:**
– Не вырошчваю ні садавіны, ні гародніны.



**Андрэй Бандарэнка, індывідуальны прадпрымальнік, Маладзечна:**
– Не вырошчваю. Нешта даюць бацькі з вёскі, нешта купляю на рынку.



**Сяргей Раманоўскі, будаўнік, Маладзечна:**
– Вырошчваю ўсё ад агуркоў да радыскі. Займаюся гэтым з маленства.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**


**ЗАБОРЫ ВОРОТА**
ПОД КЛЮЧ
(8-029) **6272787**
(8-033) **6262787**
ИП Ивановский А.М. УНП 692246605



**Рэклама ў «РГ»**
(8-0176)
**53-78-04**
*reklama@rh.by*



**Архіў «Рэгіянальнай газеты» 1995-2001 і 2013-2019 у вольным доступе на сайце Kamunikat.org**



Адсканіруйце QR-код або скарыстайцеся кароткай спасылкай: **bit.ly/kamrh**

kamunikat.org
Беларуская Інтэрнэт-Бібліятэка



Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату A2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№20 (1307) 8.05.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 796. Падпісана ў друк у 9.00 14.05.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


© «Рэгіянальная газета», 2020


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.